
На граніцы магчымасцей → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Апошні фэст у Грабаўцы → 8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 45 (3364) Год LXV Беласток, 8 лістапада 2020 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Алесь Барскі

## — паэт з Божай ласкі



Яму 90 гадоў!

ВІНШУЕМ!


Міра ЛУКША


**Кожны беларус на Беласточчыне ведае харызматычнага паэта з Бандароў вельмі часта з аўтарскіх сустрэч, на якіх тысячу разоў наведаў са сваімі выступленнямі (найчасцей з Віктарам Шведам і часта з Сакратам Яновічам) вёскі і мястэчкі, на якіх выступалі нават на дзвярах ад клуні.**

Беларускае слова ў выкананні тэмпераментнага селебрыці (цяпер такіх няма сярод літаратараў хіба ва ўсім свеце!) даводзіла нават да істэрычнага ўспрыняцця лірыкі асабліва сярод беларусак. Аўтара нават гуцалі ад захаплення пад вясковае неба! На чытацкі і слухацкі поспехі з нескумненнай зайздрасцю глядзелі калегі, не менш таленавітыя і працавітыя. А да сёння фама ходзіць пра Алеся Баршчэўскага, якому ў гэты панядзелак 2 лістапада дажылося да 90 гадоў!

Аляксандр Баршчэўскі нарадзіўся 2 лістапада 1930 году ў вёсцы Бандары на Беласточчыне. У 1955 годзе закончыў рускую філалогію ў Лодзінскім універсітэце. У 1956 годзе — пасля ўзнікнення Кафедры беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце — пачаў працаваць выкладчыкам беларускае літаратуры. У 1966 годзе абараніў кандыдацкую працу «Jakub Kołas — dzieje twórczości 1906-1930», а ў 1986 — доктарскую дысертацыю «Białoruska obrzędowość i folklor we wschodniej Białostocczyźnie». Пасля апублікавання працы „Творцы беларускага літаратурнага руху ў Польшчы 1958-1998» атрымаў званне прафесара. У 2004 годзе выйшла кніга „Беларуская эміграцыйная пісьмовасць". З'яўляецца аўтарам больш за сто навуковых публікацый. Друкуецца з 1956 года. Як паэт дэбютаваў у зборніку «Рунь» (Беласток, 1959) Аўтар паэтычных зборнікаў «Белавежскія матывы» (Беласток, 1962), «Жнівень слоў» (Беласток, 1967), «Мой бераг» (Мінск, 1975), «Блізкасць далёкага» (Беласток, 1983), „Лірычны пульс» (Мінск, 1987). У «Ніве» і «Беларускіх календарах» ведаем яго між іншым з артыкулаў па гісторыі беларускай літаратуры і з цыкла артыкулаў «Беларуская літаратура і беларускі фальклор» (1965-1988). Склаў універсітэцкія падручнікі «Гісторыя беларускай літаратуры — фальклор» (1976), «Гісторыя беларускай літаратуры — пісьменнасць Кіеўскай Русі і Вялікага Княства Літоўскага» (1981) і іншых. Ён складальнік, аўтар прадмовы і біяграфічнага артыкула да кнігі Янкі Купалы «Выбраныя паэтычныя творы» (Варшава, 1984), для якой пераклаў на польскую мову паэму «Яна і Я», а таксама вершы Купалы. Збіраў, публікаваў і даследаваў беларускі фальклор Беласточчыны. Ужо пра яго самога пішуць іншыя даследчыкі. Міхась Тычына пра крэда Алеся Барскага-паэта і Аляксандра Баршчэўскага-грамадзяніна: «тое крэда застаецца нязменным, нягледзячы ні на што: быць самім сабой, абараняць правы беларускай меншасці ў Польшчы на сваю мову і культуру, верыць у тое, што ідэя ўзаемнай нацыянальнай і светапогляднай талерантнасці на карысць і палякаў, і беларусам, працаваць, як працаваў больш за паўстагоддзя дагэтуль „над засыпаннем пропасці паміж палякамі і беларусамі", узводзіць „мост паміж нашымі народамі"...

У «З пабачанага і перажытага» (1992) пра Алеся Барскага піша аднавясковец **Уладзімір Казбярук**: «Гэта шчасце, калі чалавек можа пакінуць пасля сябе добрую памяць у тым асяроддзі, дзе ён жыў, працаваў, весяліўся»... Сёння з Беластока ў Бандары аўтобусы ходзяць праз гістарычны Заблудаў, той самы, куды прыбыў у свой час Іван Фёдараў (...) Дарога на захад толькі пасля вайны звязала Бандары жывой сувяззю з шырокім светам, бо ў даваенны час у той далёкі ваяводскі цэнтр мужыкі з гэтых вёсак амаль не трапнялі. Калі і даводзілася выбірацца з хаты, гэта значыць у Міхалова на захад, у Ялоўку на ўсход (каля гэтай Ялоўкі, знаходзяцца Мастаўляны, вядомыя нам з біяграфіі Кастуся Каліноўскага), у Нараўку на поўдзень. **Вёска Бандары**, дзе нарадзіўся Аляксандр Баршчэўскі, — своеасаблівы куток Беларусі з незвычайна самабытным мікракліматам — этнаграфічным і маральным. (...) Сцэны з жыцця Бандароў як кадры нейкай хронікі, ажываюць ва ўспамінах Алеся Барскага — і з тых часоў, калі ён быў малым хлопчыкам, і з больш позніх перыядаў, калі ён ужо выбраўся ў шырокі свет на вучобу, работу ды ў шматлікія вандроўкі па чужых краінах. Вёска невялічкая (16 дамоў, 20 сем'яў), але ў ёй былі паравы млын, кузня, невялічкая крама, рабіліся рашоты з ліповага лыка і сіты з конскага валосся (гэта была спецыяльнасць роду Баршчэўскіх). А яшчэ займаліся бандаркай. (...) Калі рэчка Нарва была больш паўнаводная, некаторыя мужчыны ранняй вясной хадзілі на плыты, сплаўлялі лес — займаліся арэлькай. Вёска свае перажыла — і бежанствы, і розныя ўлады і нават дзяржавы, але чытала і меркавала. У такім асяроддзі — у даволі **вялікай, дружнай, працалюбівай сям'і** Андрэя Баршчэўскага (Антонавага) нарадзіўся, рос і выхоўваўся Шурык, які пасля абраў псеўданім Алесь Барскі. Бацька Шурыка разлічваў, што яго сын будзе даглядаць гаспадарку (меў чатыры сястры). Але Шурык гэтых надзей не апраўдаў і **адправіўся ў шырокі свет** на вучобу, на пошукі «мудрасці кніжнай». Шурык **падаўся ў навуку**, скончыў Лодзінскі ўніверсітэт і звязаў свой лёс з кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, дзе пачаў працаваць пад кіраўніцтвам Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай, цягам часу стаў кіраўніком гэтай кафедры. (...) Даводзілася А. Барскаму зарабляць на хлеб выкладчыцкай дзейнасцю, займацца даследчыцкай працай, але галоўным яго прызнаннем аказалася **паэзія**. (..) Узнёслы настрой маладога паэта выявіўся ў вершы **«Белавежскія хлопцы»** — гэта накшталт оды юначаму няўрымсліваму запалу і нястрымнасці ў працы, у каханні да дзяўчыны, у пачуцці злітнасці з роднай зямлёй. Першы паэтычны зборнік «Белавежскія матывы» (1962) засведчыў, што малады паэт умее не толькі пераймаць традыцыйныя ўзоры мастацкай творчасці, але і знайсці свае свежае слова, адметны вобраз, каб увасобіць у шчырае пачуццё юнака, што ад душы цешыцца маладым жыццём, права выбіраць любую дарогу, кожная з якіх павінна прывесці толькі да шчасця. (...) Тут ганаровае месца займаюць малюнкі неўміручай красы наднарвянскай прыроды, матыў сыноўняй вернасці роднай зямлі.

Паслядоўна ад аднаго паэтычнага зборніка да наступнага («Белавежскія матывы» (Беласток, 1962), «Жнівень слоў» (Беласток, 1967), «Мой бераг» (Мінск, 1975), «Блізкасць далёкага» станавіўся ўсё больш трапным, і адначасова асацыяцыі ператвараліся ва ўсё больш складаную сістэму вобразаў.

Алесь Барскі — **паэт з ласкі Божай.** А яшчэ і **даследчык** роднай літаратуры, і яе **папулярызатар, і фальклярыст, і публіцыст, і педагог**, і аўтар дапаможнікаў па беларускай літаратуры і фальклоры для студэнтаў беларускай філалогіі. Ён меў падставы сказаць у адным з пазнейшых твораў, што ён **«у храме навукі не лішні»**. Ён як **перакладчык** дакладуўся і да выхоўвання маладога пакалення на лепшых узорах нацыянальнай спадчыны, і духоўнага ўзаемаўзбагачэння беларускага, польскага і нават украінскага народаў праз падрыхтоўку, складанне і пераклад выдатных здабыткаў вуснай народнай творчасці аднаго народа на мову другога. Так, напрыклад, апублікаваў на польскай мове фальклорныя зборнікі «Д'ябалава скрыпка» (казкі са збору Міхала Федароўскага «Люд беларускі», Варшава, 1973), «Невычэрпны збан» (казкі зямлі Мінскай, Смаленскай, Магілёўскай, Гродзенскай і Палесся; Варшава, 1976), «Зачараваныя барвы стэпу» (казкі ўкраінскага народа; 1987). Як перакладчык А. Барскі дбае перш за ўсё пра дакладную перадачу не толькі зместу, але і духу твора. Таленавіта пераклаў творы Янкі Купалы, у тым ліку паэму «Ён і Яна».

На працягу многіх гадоў друкаваў **у «Ніве»** рэпартажы, успаміны, публіцыстычныя артыкулы, эсэ пад агульнай рубрыкай ***«На мяжы»***. Тут былі: і ўспаміны з далёкіх гадоў, і нарысы пра падарожжы ў Сібір або ў Злучаныя Штаты Амерыкі, пра набалелыя праблемы жыцця Беласточчыны — існаванне роднай мовы, нацыянальнай свядомасці беларусаў. Вылучаецца асоба апавядальніка — (...) яго заўсёдны абавязак нізка пакланіцца чалавечай сумленнасці, працавітасці, шчырасці (...), нарысы ствараліся з жаданнем узбагаціць унутраны свет чытача, зрабіць яго больш чалавечным, уважлівым да людзей. Беражлі-


чытайце ☞ 10




# Ад Свіслачы да Курапатаў



Гарадзенцы, якія штодзённа выходзяць на мірныя акцыі пратэсту ў горадзе над Нёманам, знайшлі час, каб патраціць і ў Свіслач на традыцыйную акцыю ўшанавання памяці паўстанцаў і ўсіх палеглых за Беларусь. Мясцовыя жыхары і актывісты Свіслачы прыходзяць да памятных мясцін ужо каторы дзень. Гэтым годам, калі штодзённа беларусы выказваюць сваё цвёрдае рашэнне дамагчыся змен у сваёй краіне, было вырашана не абіраць адмысловага дня для традыцыйнай свіслацкай акцыі, а заклікаць прыязджаць на ўшанаванне памяці герояў калі хто можа. І людзі прыязджаюць калі могуць. На памятных мясцінах ляжаць свежыя кветкі, гараць свечкі, лампады...

У Мінску, на восемдзесят пяты дзень мірных пратэстаў, людзі зноў выйшлі пад бела-чырвона-белымі сцягамі. Больш за пяцьсот крымінальных спраў заведзена на ўдзельнікаў акцый і больш пятнаццаці тысяч адміністратыўных. І гэтыя лічбы імкліва растуць. Безліч затрыманых, збітых, параненых... І на вялікі жаль, ёсць і загінуўшыя. І гэта ўсё людзі, у руках якіх пераважна былі кветкі і сімволіка. Такога жорсткага праследу і запалохвання мірных пратэстоўцаў гісторыя наўрад ці ведае. На тое, каб зламаць іх волю, кінуты ўвесь сілавы рэсурс. Але людзі выйшлі зноў.

Гэтым разам, яны пайшлі ў Курапаты. Было б дзіўна, калі б абралі іншы маршрут. Напярэдадні Дзяды, восеньскія дні ўспаміну і памінання, калі, як і ў веснавую Радаўніцу, беларусы ўшаноўваюць памяць сваіх памерлых продкаў.

Усяго адзін год спатрэбіўся беларусам, каб ад месца перазахавання парэшткаў паўстанцаў Кастуся Каліноўскага і самога кіраўніка паўстання дайсці пад нацыянальнымі сімваламі ажно да Курапатаў, да месца масавых сталінскіх расстрэлаў жыхароў Беларусі. Сімвалізм гэтага дзеяння перабольшыць немажліва. Завяршылася вялікае кола адраджэння памяці і даніны павагі. І гэтая даніна павагі тым, хто быў да нас, аддадзеная. Беларусы з гонарам і ўдзячнасцю прайшлі праз успамін мінулага, і тым самым ачысціліся для будучыні. Пачынаецца новая беларуская эра.

Гэта быў насычаны год. Год інтэнсіўнага і імклівага Беларускага Адраджэння. Яшчэ нядаўна палітвязень Павал Севярынец, які і сёння знаходзіцца за кратамі, трымаў у Курапатах са сваімі паплечнікамі ганаровую варту. Стаяў удзень і ўночы, каб не дазволіць уладам завершыць пачатыя імі ганебныя і подлыя крыжалом. Сёння беларусы пайшлі ў Курапаты дзясяткамі тысяч, пад узрывы светлашумавых гранат, пад свіст гумовых куль і выстаўлены супраць мірных людзей экіпіраваны да зубоў і абстаўлены спецтэхнікай арсенал сілавікоў.

Але людзі дайшлі, неўзіраючы на збіццё, затрыманні, арышты, запалохванні. Напэўна Павал Севярынец, якога чамусьці абмінаюць міжнародныя ўзнагароды, усё ж атрымаў самую вялікую ўзнагароду ў сваім жыцці. Тысячы і тысячы суайчыннікаў, якія прарваліся праз кардоны і шыхты сілавікоў, каб памаліцца ў Курапатах, ускласці там кветкі, запаліць свечкі і лампады, ушанаваць памяць нявінна загінуўшых суайчыннікаў і ёсць тая ўзнагарода. І не толькі яму тая ўзнагарода, але і ўсім тым, хто раскрыў грамадству гэтае месца, даверу праўду да людзей, паказаў сапраўдныя твары таго і гэтага рэжыму, хадзіў гэтымі сцежкамі на масавыя магілы з васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, падвяргаўся праследу, маліўся за сваіх продкаў, ставіў там свечкі і новыя крыжы, заклікаў іншых расплюшчыць вочы і глянуць у твар праўды, і тым самым паказаць, што мы, беларусы, ёсць нацыя, ёсць нязломны народ. І што мы проста ёсць людзі, якія шануюць сваіх продкаў і напярэдадні памінальных дзён лічым сваім абавязкам аддаць даніну памяці тым, хто быў да нас.

Сілавікі ганяліся за людзьмі не толькі ў горадзе, але і ў чыстым полі перад Курапатамі! Улады не пускалі людзей памаліцца і паставіць свечкі на месцы масавых расстрэлаў іх продкаў! Людзей хапалі і жорстка затрымлівалі за спробу патраціць на масавую магілу нявінна забітых суайчыннікаў!

Але людзі прарваліся туды. Славутая Ніна Багінская прайшла праз Курапаты па калідоры з бела-чырвона-белых сцягоў і пад крыкі на роднай мове: „Мы разам, нас многа, за намі перамога!". Ну, і вядома ж, пад неўміручае: „Жыве Беларусь!!!".

У Курапатах загарэліся свечкі і лампады....

Народ гатовы да Адраджэння і варты яго!

Віктар САЗОНАЎ

# Мова ўлады

Няма нічога больш відавочнага, чым сказаць, што два плюс два роўна чатыром. Толькі што відавочна ў гэтым выразе, а што не? У гэтым відавочная матэматычная логіка. Толькі той самы выраз, перакладзены на жыццё чалавека, недзе губляе гэтую логіку. Калі Канстытуцыйны трыбунал пад старшынствам Ю. Пшылэмбскай пастанаўляе, што аборты не адпавядаюць Канстытуцыі — нават аборты пладоў з незваротнымі недахопамі альбо тыя, якія ўзніклі ў выніку бандыцкага згвалтавання, — гэта таксама супярэчыць праву свабоды кожнага грамадзяніна на самавызначэнне свайго жыцця, светапогляду і рэлігіі, як сказана ў Канстытуцыі. Гэта супярэчнасць відавочная для тых, хто адмаўляецца ад сістэмнай канцэпцыі самадзяржаўя ці нават тэакратыяў, кіруючыся, як правіла, інтарэсамі абранай часткі грамадства. Але матэматычна логіка выразу два плюс два заўсёды прыводзіць да выніку — чатыры. Той, хто быў знаёмы з лічбамі з дзяцінства і навучыўся іх ужыванню, пагодзіцца. Хто не быў? Такім чынам, практычна ўсе мы можам лічыць, нават непісьменныя. Аднак з вышэйсказанага не варта рабіць высновы, што лічба была перад словам. Таму што кожная лічба, калі вы гэтага не заўважаеце, — гэта само... слова. Але не словамі, а лічбамі мільянеры і мільярдэры будуюць свой лёс. Ён нічым не адрозніваецца ад улады, якая разлічвае сваю палітычную моц на паказчыках падтрымкі, значыць, на лічбах. Сучасныя мовы не могуць абысціся без іх. Аказваецца, у свеце існуе мова (адзіная да гэтага часу вядомая), якая выдатна спраўляецца без лічбаў. Гэта мова племя амазонскіх піраxаў. Чалавека не цікавіць, колькі ў яго атручаных стрэл, але ён ведае, што ў яго іх «дастаткова» для наступнага палявання ў джунглях. Гэта для яго важнае — канкрэтнае. Маці не ведае, колькі ў яе дзяцей — двое ці васьмёра, але яна ведае імя кожнага дзіцяці, дзе яно знаходзіцца, што робіць і як сябе адчувае. Гэта для яе таксама канкрэтна. Да нядаўняга часу лічылася, што мова піраха мае прымітыўныя лічэбныя формы, гэта значыць менавіта «адзін, два і шмат». Аднак у ходзе апошніх даследаванняў было ўстаноўлена, што існавала ілжывая лінгвістычная інтэрпрэтацыя, выкліканая самімі даследчыкамі, абцяжараная лічбавым узорам, які адбіваецца на граматыцы іх роднай мовы. Іншымі словамі, яны няправільна інтэрпрэтавалі мову піраха на аснове мадэляў мовы, мусіць быць памылка ў інтэрпрэтацыі.

Мова, якой мы карыстаемся кожны дзень, недасканалая. Выказаць тое, што маем на ўвазе, няпроста, а яшчэ складаней — тое, што адчуваеш. Словы, як і колеры, маюць адценні і пераходы колераў. Калі штосьці чырвонае, іншаму здаецца быць пурпурным альбо фіялетавым. Але фіялетавы — не чырвоны. Такім чынам, непаразуменне закладзена ў структуры кожнай мовы. І гэта было з самага пачатку. Гэта часта прыводзіць да войнаў, у тым ліку рэлігійных, судовых памылак, сварак па суседстве і сямейных спрэчак. Таму варта паразважаць, перш чым штонебудзь сказаць. Ці, як казаў Джон Лок, англійскі філосаф эпохі Асветніцтва: зразумей, перш чым сказаць. Гэта азначае, што, я думаю, мы павінны спачатку зразумець, што мы ведаем і чаго не ведаем, а потым зразумець, што мы хочам сказаць — ці ведаем гэта, ці не ведаем. Нарэшце зразумець, з кім мы будзем размаўляць і з якой мэтай. І вось мы падышлі да самага сутнага, якое падтрымлівае магістр Пшылэмбская.

Асабіста я сумняваюся, што калі-небудзь пані магістр прытрымлівалася філасофскіх парад Лока. А калі так, то ў выпадку з «прысудам да аборту» яна, напэўна, зведала «філасофскую тупасць». У любым выпадку, у гэтай сумнавядомай пастанове яна не ўлічыла патрабавання канстытуцыйнай згоднасці «жыцця і закона», якое ахоплівае ўсё грамадства — гэта сутнасць Канстытуцыі, — а толькі патрабаванне невялікай часткі гэтага грамадства, гэта значыць партыі «Права і справядлівасць», якой бязмерна служыць. Тут узнікае дагэтуль схаванае пытанне: навошта гэтая абортная бойка для ПіС? Ці для таго, каб кіраваць грамадствам за морду, яшчэ больш падзяляючы яго? Зразумейце, перш чым гаварыць — гэты прынцып датычыцца прававых актаў, якія з'яўляюцца асаблівай формай маўлення. Мова ўзнікае, калі чалавек размаўляе з чалавекам. Яе канцэптуальным варыянтам вышэйшай ступені з'яўляецца паняцце «дамовы». Грамадская дамова, якой з'яўляецца Канстытуцыя, з'яўляецца асновай грамадскага парадку, апіраецца на вяршэнстве закона і інтарэсах грамадзян.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Паўсюдны каранавірус

Хочаш не хочаш, але каранавірус штораз мацней уваходзіць у наша грамадскае, прыватнае і псіхічнае жыццё. Яго ная нябачная атака пачынае маланкава кранаць ужо родных, сяброў і нас саміх. Эмоцыі і псіхічная напруга грамадства ўзрастаюць з дня на дзень. Кіраўнікі паасобных дзяржаў разам са сваім апаратам кіравання і інструментамі ўлады аказваюцца не ў змозе забяспечыць медыцынскую дапамогу ўсім патрабуючым, а прафілактыка не ў сіле спыніць рост захворванняў. Некаторыя, часта абсурдныя, крокі дапамагаюць так, як памерламу кадзіла. Па чарзе адна за другой паасобныя краіны ўводзяць больш ці менш жорсткія формы абмежаванняў для сваіх грамадзян. У рэальнасці, здаецца, тут няма аніякага прынцыпу і параза любой улады маецца навідавоку. А ўсе здаецца робяць стаўку толькі на ізаляванне самых старэйшых грамадзян, а астатнія, здаецца, мусяць перахварэць інфекцыю з усімі гэтага паслядоўнасцямі, у тым ліку і тымі самымі трагічнымі. Калі не будзе знойдзена бяспечная вакцына супраць каранавіруса, то ягоная мутацыя будзе ўспыхваць у любым куточку свету са здвоенай сілай паражэння. А ўжо сам вірус, здаецца, назаўсёды зніта ваўся з чалавечым родам і будзе чарговай эпідэміялагічнай пагрозай для нашага зямнога жыцця. Зараз штодзень прыходзіцца нам слухаць і наглядаць гісторыі як каранавірусная пятля бярэ ў палон ці нахабна задушвае хворых у нашым сямейным і сяброўскім кругах. Няйначай было і ў маім родным, вясковым аазісе. Два тыдні назад, у суботу, калі, развітаўшыся з пакойным Віктарам Шведам, уключыў я свой мабільнік, пабачыў там некалькі паступаючых па сабе тэлефанаванняў ад майго роднага брата, які якраз знаходзіўся на вёсцы ў бацькоў. Дрэнныя думкі мільганулі мне ў гэты момант у галаве і я адразу пазваніў брату. Сапраўды, навіна была сумная і датычыла нашай вясковай сваячкі, новапрадстаўленай Валянціны. Памерла яна на каранавірус у суботу ў адным з беластоцкіх шпіталяў і ў той жа дзень была пахавана без апошняга развітання з роднымі ці адпявання ў прыхадской царкве на нашых могілках у Вэрстоку. Які ж гэта яшчэ ўзвялічаны боль мужу, дзецям, родным, калі патрапілі ў такую ж сітуацыю. У шоку і болю былі і ўсе аднавяскоўцы, у тым ліку і тыя, якія штодзень не пражываюць у сяле. Вечная ёй наша памяць. А з ёй здарылася наступная гісторыя. Некалькі тыдняў назад трапіла яна ў шпіталь у Беластоку на аперацыю. Цягам пабыўкі ў бальніцы падхапіла і каранавірусную заразу. З блізкімі змагла размаўляць слабеючым з кожным днём голасам некалькі хвілін толькі па тэлефоне, бо ж, вядома, што ніхто не мог наведаць яе на шпітальным ложку. Пайшла ратаваць здароўе, а памерла ад зусім чаго іншага і вярнулася ў закрытай труне. Калі пачуў я гэтую сумную навіну адразу пасля развітання з Віктарам Шведам, то, вярнуўшыся дадому, проста зваліўся на ложак і некалькі гадзін праляжаў бы гэты кавалак цела, з якога зышла жыццёвая энергія. А цягам наступных дзён на працы падобныя гісторыі пачалі ўсплываць і сярод нашай рэдакцыйнай кампаніі. У шпіталі пачалі трапляць нават сем'і іх блізкіх. Вядома, што перажыванні ў такой сітуацыі падрэзваюць рукі кожнаму. Выявілася таксама, што многія захварэлі каранавірусам, калі знаходзіліся на багаслужбах і могілках у часе апошняй дарогі з блізкімі ім асобамі. Напэўна такога развітання не хацелі б тыя, якія пайшлі ўжо з зямнога жыцця. Размовы у такой сітуацыі з кожным днём нясуць штораз больш трывогі ў нашых галасах. Відавочныя статыстычныя рэкорды захворванняў у Польшчы і нашым ваяводстве, хочаш не хочаш, але напэўна выклікаюць павышаны страх, асабліва калі некаторыя спецыялісты гавораць, што калі тыя лічбы павялічацца ў чатыры-пяць разоў, тады вынік будзе прыбліжаны да рэальнасці. Не такога ўсе чакалі гэтай восенню. Значыць, перад намі і не менш сумныя Каляды.

Яўген ВАПА

# На граніцы вялікіх магчымасцей

**У бок мяжы ўжо адвыклі глядзець. Нават прырода паддалася накінутаму парадку і зараз суцэльна аддзяляе жыхароў прыгранічных вёсак гміны Ліпск, ад лугоў, хат і сваякоў з другога боку мяжы. Памежны пераход Ліпшчаны-Сафіева меў ствараць магчымасці для развіцця. Аднак у гэта некаторыя жыхары ўжо даўно перасталі верыць. Пагубілі пашпарты, а блізкія з-за мяжы даўно ўжо маўчаць.**







### Пахаваць сваякоў і надзею

Дарогу ў бок Ліпшчанаў робяць новую і хаця ў самой вёсцы далей стаіць аўтобусны прыпынак, ужо некалькі гадоў не заязджае сюды ніводны аўтобус. Генрык Пятровіч жыў доўгі час у Ліпску. Зараз, на пенсіі, вярнуўся ў родную хату, за якой глядзіць, каб не папала ў руіну. Ганарыцца вялікім басейнам, у якім купаюцца яго ўнукі з Ліпска, якія заглядаюць да дзеда. Дачка з Варшавы амаль не прыязджае. Можа раз на год, але не часцей. Калі надвор'е дазваляе, спадар Генрык нешта робіць навокал хаты — зараз паліў старое лісце ў малых вогнішчах раскінутых па аблогу.

— Я шмат гадоў працаваў у транспартнай фірме ПКС, — кажа, выцягваючы беларускага папяроса з кішэні. — Калісьці ў Ліпшчаны ездзілі тры аўтобусы — два былі з Дубровы, а адзін з Аўгустова, — Генрык зацягнуўся папяросам і зморшчыў лоб быццам бы прыгадваў сабе нейкую вялікую падзею. — Адзін быў у дзесяць, а другі ў дванаццаць, — працягвае павольным голасам, які яшчэ больш адлюстроўваў стагнацыю таго месца, хаця з другога боку менавіта аўтобус уводзіў нейкае дзейства ў сонную вёску. — Я прыязджаў сюды на вечар, начаваў, і з раніцы ехаў праз Ліпск у Аўгустаў. Зараз няма ніводнага.

Генрык, расказваючы пра Аўгустаў, Ліпск ці мяжу, указваў рукой з папяросам напрамак месца, пра якое гаварыў. Невялікая стужка дыму цягнулася за яго рукой і знікала так павольна, як павольна спадар Генрык дабываў з сябе словы.

— Скажам, пяцьдзясят гадоў таму было трыццаць дзве хаты, а зараз? — спадар Генрык зацягнуўся папяроскай і глянуў у бок вёскі. — Зараз, у Багданаў няма нікога, Калейка, Штукоўскі, Тарасэвіч... зараз толькі дзесяць. На калёніі было адзінаццаць, засталося пяць.

Але смерць не заглядае толькі да хат суседзяў — Ліпшчаны здаюцца быць акуратным месцам дзеля таго, каб у спакоі і цішыні падрыхтавацца да вандроўкі на другі бок і не ідзе тут пра бок мяжы. Паколькі смерць у Ліпшчанах з'яўляецца нечым натуральным, то падарожжа на беларускую старану амаль нерэальнае. Сваякі Генрыка яшчэ калі можна было, адведвалі сям'ю з Ліпшчанаў, але зараз спадар Генрык нават не ведае, ці яны жывыя.

— З цёткамі я даўно не меў кантакту. Не ведаю як ім там жывецца. Мяне тут не было больш як трыццаць гадоў. Само дзесяць гадоў таму туды вярнуўся. І так на працягу васьмі гадоў я пахаваў малодшага брата, бацьку і маці... Сам застаўся.

### У чаканні свята

Пра неабходнасць будаўніцтва і адкрыцця памежнага перахода ў Ліпшчанах кажуць ужо чвэрць стагоддзя. У часы Савецкага Саюза ў Ліпшчанах працаваў польска-савецкі аўтамабільны пагранпераход толькі для абмену грамадска-палітычнымі, культурнымі, спартыўнымі і іншымі дэлегацыямі з прыгранічных рэгіёнаў ПНР і СССР. 24 студзеня 1986 года тут пачаў дзейнічаць спрошчаны пагранічны пераход Ліпшчаны-Гродна. Мяжу перасякалі па пропусках. Тады, у дзевяностыя гады, памежны пераход Ліпшчаны быў створаны выключна для спрошчанага памежнага руху. Пасажырскі рух дазваляўся на падставе пропускаў для грамадзян Польшчы і Беларусі. Пасля ўваходу Польшчы ў Шэнгенскую зону і ўвядзення віз гэтая магчымасць скончылася.

Для Ліпшчанаў людзі дагледаліся надзеі ў Еўрасаюзе, які меў паспрыяць адкрыццю памежнага перахода, але само ў 2019 годзе пачалі рамантаваць дарогу з Ліпска ў бок дзяржаўнай мяжы Ліпшчаны-Сафіеў, дзякуючы таму перспектыва адкрыцця новага перахода здавалася быць блізкай. 31 кастрычніка 2019 года ў Кур'янцы, падчас сімвалічнага пачатку інвестыцыі, маршалак Падляшскага ваяводства, улады ваяводства і гміны Ліпск сімвалічна ўбілі лапаты ў зямлю. У рамках будовы ваяводскай дарогі нумар 664 мадэрнізуюць участак працягласцю больш за 12 кіламетраў. Згодна з дамовай шаша будзе мець шырыню 7 метраў, будуць новыя ўезды, веласіпедныя дарожкі, тратуары, аўтобусныя затокі, а таксама бар'еры і балюстрады ў месцах водапрапускных труб і высокіх насыпаў. Будаўніцтва мае заняць 14 месяцаў.

— Мы хочам, каб там быў пабудаваны памежны пераход (у Ліпшчанах). У выніку гэтая сфера будзе развівацца ў эканамічным і ў турыстычным плане. Я спадзяюся, што на працягу гэтага тэрміну мы сустрэнемся ў такой групе ці нават большай, на мяжы з Беларуссю, каб адсвяткаваць адкрыццё памежнага перахода, — сказаў маршалак Падляшскага ваяводства Артур Касіцкі ў канцы кастрычніка 2019 года.

Пасля прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі 9 жніўня гэтага года перспектыва памежнага перахода ізноў стаіць пад знакам запытання.

Свой дыягназ адносна памежнага перахода ў Ліпшчанах спадар Генрык выказаў пасля манатоннага бучэння машыны дзесьці здалёку. Адмыслова, ездзячы ў Ліпск, мыляе „новую дарогу", каб не стаяць на святлафорах і не раздражняцца.

— Не буду рабіць ужо пашпарту. У нас непатрэбны. Па ўсёй Еўропе можна ездзіць без яго. Ніводных запрашэнняў, віз... Мне пашпарт ужо непатрэбны. А пагранпераход у Ліпшчанах не адкрыюць, пакуль там Лукашэнка. Ужо сорак гадоў таму аб гэтым гаварылі. Нібыта наш пераход меў бы палепшыць сітуацыю ў закаркаванай Кузніцы, але як будзе... Дыктатура Лукашэнкі не дазволіць. Лукашэнка робіць так, як за камуны было, а ён сам гэта бальшой камуніст.

### Ні кроку на ўсход

Спадар Генрык абапёрся на прыдарожным драўляным стаўпе. З-за гарачыні ці проста ад доўгага расповеду стаміўся, горла засохла, і ўжо, хаця выцягнуў пачак папяросаў, схаваў яго назад. Шкадуе толькі, што зараз больш можа даведацца пра Беларусь з тэлебачання, чым ад жывых людзей, якія тут, побач. Хаця і ў гэта не да канца верыць. Па папяросы людзі ездзяць аж пад Кузніцу. Яго памежжа скончылася і на доказ таго вядзе ў бок прыдарожнага крыжа.

— Гэты крыж паставіў мой дзед Пятровіч Францішак, — тлумачыць. — Тады тут яшчэ была Русь. Граніца была тады некалькі кіламетраў далей — там, такая рэчка плыве і граніца ішла па гэтай рэчцы. Мядзведзіца яна называецца. Яна выплывае з-за граніцы і ўпадае ў Бобру.

Спадар Генрык абдымае рукамі халодны камень і пачынае чытаць быццам бы бачыў яго ўпершыню.

— Сонца, цяжка прачытаць. О, 1905 год! Гэты камень паходзіць з-пад Гродна! Хлопцы з вёскі сабраліся і ўпотай ноччу паехалі, прывязалі і паставілі яго. Унача! Жалезнымі вазкамі і конікамі! „Na pamiątkę tolerancji religijnej" — так напісанае. А тут зараз каталікі належаць да парафіі Рыгалоўка, а перад вайною былі да парафіі Галынка — так просценька будзе чатыры кіламетры адсюль. Касцёл у Галынцы выглядае таксама, як касцёл у Ліпску. Нават мае такія самыя памеры.

Ведаеце, мой дзед меў трыццаць гектараў зямлі, ён быў з невялікай шляхты. Меў зямлю і тут, і за мяжой. Мне зараз засталося шэсць гектараў, але і з гэтым невядома што рабіць. Ведаеце, я калісьці як працаваў у ПКСе то помню як на свята мы з сябрамі мяняліся на курсы. Праваслаўныя хлопцы бралі за мяне ў снежні, я за іх ездзіў у студзені... Вядома, калісьці было цяжка, але сёння нават ноччу не дабярэшся пад Гародню. Не пераступіш кроку.

(працяг будзе)

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Апошні беларускі фэст
## перад рэзкім наступам каранавіруса

**Беларускі фэст з цыкла «І тут жывуць людзі», наладжаны 4 кастрычніка ў Грабаўцы Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы, быў апошнім беларускім фэстам арганізаваным непасрэдна перад другой хваляй каранавіруса ў Польшчы і Еўропе. Няцэлыя два тыдні пазней Гайнаўскі і Бельскі паветы ды Беласток апынуліся ў чырвонай зоне з абвостраным санітарным рэжымам. Яшчэ тыдзень пазней уся тэрыторыя Польшчы была ахопленая чырвонай зонай. Гэта спрычынілася да ўвядзення строгіх абмежаванняў пры арганізацыі культурных мерапрыемстваў, да забароны арганізаваць вяселлі, на якіх звычайна іграюць нашы беларускія калектывы.**




Калектыў «Давід Шымчук Банд»



Публіка

На фэсце ў Грабаўцы публіка магла паслухаць беларускія песні ў выкананні вядомых беларускіх калектываў. Асабліва цёплае як на кастрычнік і сонечнае, хаця і ветранае надвор'е прыцягнула ў Грабавец многа народу. Апрача жыхароў Дубіцкай гміны спаткаў я на фэсце асоб з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага і Беластока. Думаю, што ніхто з удзельнікаў фэсту не прадбачваў, што праз некалькі тыдняў так вельмі многа зменіцца ў нас у плане грамадскага жыцця. Эксперты прадбачвалі другую хвалю каранавіруса позняй восенню або зімой, але прыйшла яна намнога раней.

Дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк падзякаваў уладам Дубіцкай гміны за суарганізаванне белфэсту ў Грабаўцы. Адкрываючы разам з войтам гміны Лявонам Малашэўскім мерапрыемства сказаў, што фэсты з цыкла «І тут жывуць людзі» мелі распачацца вясной і ў асноўным адбывацца летам. Аднак з-за пандэміі пачаліся ў апошнюю нядзелю жніўня, адбываліся ў верасні і канчаюцца ў кастрычніку, чаго раней не здаралася.

— Хаця распачалі мы ладзіць белфэсты з цыкла «І тут жывуць людзі» пры канцы лета, нам вельмі пашанцавала з добрым і цёплым надвор'ем. Збіралася многа публікі, каб паслухаць нашы беларускія песні. Мы раней у іншых сёлах Дубіцкай гміны таксама ладзілі такія ж фэсты і яны добра вядомыя жыхарам Дубіцкай і суседніх гмін, — сказаў дырэктар Тамаш Ціханюк.

— Грабавец раней быў шматлюднай вёскай, з самай вялікай колькасцю дамоў у параўнанні з іншымі сёламі. Зараз у гміне хутка падае лік жыхароў. Маладыя выязджаюць на пастаяннае жыхарства ў гарады, старэйшыя паміраюць. Колькасць людзей, якія купляюць у нас дамы, каб пасяліцца — невялікая. Гэтая тэндэнцыя наглядаецца і ў Грабаўцы, хаця ўласнікі дамоў рамантуюць іх, дбаюць пра парадак на панадворках і таму Грабавец з'яўляецца вельмі прыгожай вёскай, — заявіў войт Лявон Малашэўскі.

— У Грабаўцы, так як і ў суседніх вёсках, жывуць перш за ўсё пенсіянеры, а некаторыя дамы пустуюць. Ёсць крыху маладушых сямействаў і пражывае сямёра дзяцей школьнага ўзросту. Некалькі сямействаў займаецца земляробствам. Палі перш за ўсё абрабляюць у нас дзеці старэйшых жыхароў, якія жывуць у гарадах і гаспадары з суседніх сёлаў, паколькі ў нашай вёсцы няма буйных раслінаводаў, якія вырошчвалі б збожжа. Землі ў нас наогул дрэнная якасці. Мясцовыя жыхары ў сямідзясятых і васьмідзясятых гадах многа грошай зарабілі на саломаплецэнні — рабілі каробкі і іншыя прадметы гаспадарча-бытавога прызначэння ды сувеніры. У сям'і майго мужа таксама выплятал з саломы. Займаліся з восені да вясны, плялі днём і вечарамі ажно набрыдала людзям. Аднак за заробленыя такім спосабам сродкі людзі будавалі дамы, гаспадарчыя будынкі, куплялі ў гарадах кватэры. Пасля ў нас рамантаваліся старыя дамы і зараз Грабавец — акуратная вёска. Прыгожа адрамантавалі ў нас таксама святліцу, у якой арганізуюцца сустрэчы, — расказала солтыс Грабаўца Ірэна Шыманюк.

— Я перад фэстам пайшла па вёсцы зрабіць крыху здымкаў. Аднак Грабавец настолькі доўгае сяло, што я не дайшла да канца, паколькі трэба было вяртацца на мерапрыемства. Пабачыла я многа прыгожа аднолкавых дамоў і традыцыйную драўляную забудову. Спаткала старэнькіх бабулек на лавачцы і запрасіла іх на фэст. Аднак яны сказалі, што ім ужо складана пяшком ісці з кульбакамі далей ад дома і калі будзе чуваць песні, будуць слухаць іх седзячы на лавачцы, — расказала Агнешка Ціханюк з Гайнаўскага белмузея, якая з іншымі працаўнікамі прадавала беларускую літаратуру і кніжкі аб Беласточчыне, вырабы рукадзелля і кашулькі з надпісамі па-беларуску.

З боку музейнай палаткі Люцына Ляўчук і Дарыюш Лінк з гайнаўскага бюро Цэнтра кампетэнцыі аднаўляльнай энергіі і энергетычнай эфектыўнасці на Падляшшы заахвочвалі сялян набываць сонечныя панэлі для вытворчасці электратоку з выкарыстаннем сонечнай энергіі. Звярталі яны ўвагу на магчымасць дафінансавання такой інвестыцыі вонкавымі сродкамі, якія можна атрымаць у гміне. Некалькі асоб сярэдняга ўзросту зацікавіліся такой прапановай і атрымалі прамацыйныя матэрыялы.

— Добра, што культура да нас прыязджае і можам паслухаць прыгожыя песні. Слухаючы музыку і пра хваробы забываем, — гаварылі між сабой старэйшыя жанчыны.

На фэсце першым з беларускімі народнымі песнямі запрэзэнтаваўся калектыў, які праводзіць рэпетыцыі ў Гайнаўскім белмузеі. Вядучая белфэст Марыёля Герман-Петручук заказала яго як калектыў, які дзейнічае пры Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы.

— Частка спевакоў, якія раней выступалі ў калектыве «Цаглінкі», зараз праводзяць рэпетыцыі ў белмузеі. Пры нашым музеі дзейнічалі вакальна-інструментальны калектыў «На мяжы», тэатральныя калектывы. Зараз рэпетыцыі стаў праводзіць калектыў, мастацкім кіраўніком якога з'яўляецца Мікола Мяжэнны, — патлумачыў дырэктар музея Тамаш Ціханюк.

— Я з беларускім калектывам «Цаглінкі» з Ляўкова займаюся ажно 27 гадоў, з 1993 года. Спевакі хочуць, каб я надалей быў іх мастацкім кіраўніком і я згодны на гэта. У назве нашага калектыву нічога не памянялася і надалей мы з'яўляемся «Цаглінкамі». Частка асоб з нашага калектыву адышла і мы, большасць калектыву, знайшлі новае месца для рэпетыцый у Беларускім музеі ў Гайнаўцы, дзе супольна спяваем і рыхтуемся да выступаў. Зараз мы дзейнічаем дзякуючы спонсарам. Я рады, што сённяшні выступ спадабаўся публіцы, — заявіў Мікола Мяжэнны.

Арганізацыйны кіраўнік цяпер ужо белмузейнага калектыву і яго спявачка Галена Бандарук таксама сказала, што калектыў, які нядаўна сышоў са сцэны, надалей трэба называць «Цаглінкамі», паколькі з яго адышло толькі некалькі асоб. Спадарыня Галена патлумачыла, што ўзніклі непаразуменні паміж гміннымі ўладамі ў Нараўцы а мастацкім кіраўніком калектыву і большасцю спевакоў «Цаглінак», які дзейнічаў у Ляўкове. Тады прадстаўнікі ляўкоўскага калектыву звярнуліся з афіцыйнай просьбай да старшыні Аб'яднання Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы Мірслава Морданя, каб аб'яднанне дазволіла праводзіць рэпетыцыі ў Гайнаўскім музеі і атрымалі такую згоду. Сродкі на зарплату для мастацкага кіраўніка калектыў атрымлівае ад Прадпрыемства будаўнічай керамікі з Ляўкова і гэтых грошай хопіць на чатыры месяцы. Цяпер вырашаецца будучыня калектыву.

Другім на сцэну з вядомымі малодшай публіцы беларускімі творамі выйшаў калектыў «Аксель» з Беластока. Яго лідар Януш Снарскі ўдакладніў, што «Аксель» іграе на вяселлях, выступае на іншых закрытых мерапрыемствах і мужчын з гэтага калектыву можна ўбачыць на беларускіх фэстах.

З багатым інструментальным акампанементам займальна выступіў гайнаўскі беларускі калектыў «Давід Шымчук Банд».

— Мы перш за ўсё заспяваем нашы песні, якія асабліва падабаюцца публіцы. Выступаем у вялікім саставе пад акампанемент розных музычных інструментаў. Нам патрэбны кантакт з публікай, паколькі мы дзеля гэтага і рыхтуем рэпертуар. Пасля доўгага перапынку ўжо хацелася запрэзентавацца перад нашымі жыхарамі і зараз карыстаемся магчымасцю выступаць на фэстах з цыкла «І тут жывуць людзі», — сказаў лідар гурта Давід Шымчук.

Удзельнікі фэсту знаёміліся таксама з фотавыставай, на якой экспанаваліся здымкі з фэстаў з мінулых гадоў. Для публікі праводзіліся конкурсы з прызамі на тэму гісторыі мерапрыемстваў з цыкла «І тут жывуць людзі». Ужо традыцыйна валанцёры збіралі грошы на лячэнне дзіцяткі Якуба з Гайнаўкі. Людзі ахвотна ўспамагалі такую ініцыятыву, паколькі лячэнне рэдкай хваробы гэтага хлопчыка вельмі дарагое.

Апошнім выканаўцам быў калектыў «Родны кут» з Нарвы, вядомы раней як «Арт-Пронар».

— Мы рады, што цяпер рэгулярна выступаем у час мерапрыемстваў, якія ладзіць Беларускі музей. Не рашаемся ўжо іграць на вяселлях і даваць доўгі канцэрт як адзін выканаўца. Аднак цягне, каб выступіць перад нашай публікай у час беларускіх фэстаў, дзе асаблівая атмасфера. Яна яшчэ мацней падбадзёрвае нас, каб як найлепш запрэзентаваць прыгожасць нашага беларускага рэпертуару, — сказаў лідар гурта «Родны кут» Ян Снарскі.

У Грабаўцы члены калектываў яшчэ спадзяваліся, што можа ў бліжэйшы час каранавірус адступіць і санітарны рэжым не будзе абвостраны. Здарылася аднак інакш і зараз нельга ладзіць мерапрыемстваў з публікай. Аднак і самі арганізатары не хочуць ладзіць імпрэз, маючы на ўвазе адказнасць за здароўе іншых асоб.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

# „Феномен, імя якому Караткевіч” (да 90-годдзя) 26.XI.1930 – 25.07.1984

**Уладзімір Караткевіч узнёсся на небасхіл айчыннага пісьменства і гарыць там зоркай першай велічыні. Як Ютрань, зорка Пярэдадня.**

Адам Мальдзіс

Заўсёды была ўпэўнена, што пачаткам творчага шляху Караткевіча з'яўляецца верш „Машэка”, надрукаваны ў часопісе „Полымя” ў 1955 годзе. Але, прачытала ў адным з інтэрв'ю наступнае: „... маім літаратурным дэбютам былі дарожныя запіскі „Вязынка”, змешчаныя ў зборніку „Янка Купала”, які выйшаў у 1952 годзе”.

Цяга да творчасці абудзілася ў Караткевіча ў далёкім дзяцінстве, калі ён, шасцігадовы хлапчук, „бубніў” вершы, а крыху пазней паспрабаваў сябе і ў апавяданнях, абавязкова іх ілюструючы. Словам, непісьменным сябе не памятаў. У хаце заўсёды было многа кніг: дзедавы (даслужыўся да павятовага казначэя); літаратура маці (працавала настаўніцай пасля заканчэння Марыінскай гімназіі ў Магілёве); сёе-тое са збяднелага бацькавага шляхецкага роду („род падстарасты Бабруйскага і Пінскага, захудалага да ўсёру”).

Прага да ведаў прывяла Караткевіча ў Кіеўскі ўніверсітэт (філалагічны факультэт) — 1949-1954 гг.

„Як ні дзіўна, я не хацеў быць літаратарам. Вершы пісаў для сябе. А ў будучым хацеў быць літаратуразнаўцам”. Але з цягам часу ўсё змянілася. Працуючы настаўнікам у Оршы, многа пісаў, пераважна вершы. Час ад часу яны з'яўляліся ў друку дзякуючы мінскаму сябру С. Карпенку, які адсылаў іх у часопіс. Вершы былі высока ацэнены на рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў (верасень 1953 г.). У красавіку 1957 года быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР. Пасля (1958-1960) — Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве, дзе шмат увагі ўдзяляў творчасці. У гэты час была напісана трэцяя кніга — „Блакіт і золата дня”, а таксама задуманы першы раман — „Леаніды не вернуцца да Зямлі” (надрукаваны пад назвай „Нельга забыць”), а таксама 2-я кніга вершаў — „Вячэрнія ветразі”.

Амаль адразу пасля літаратурных прац цягваў вучобу на Вышэйшых сцэнарных курсах (1960-1962 гг). І пісаў, пісаў...

Дагэтуль дакладна невядома, колькі неапублікаваных твораў пісьменніка чакаюць недзе сваёй чаргі. Так здарылася з аповесцю „У снягах драмае вясна”. Напісаная ў 1957 годзе яна ўбачыла свет толькі ў 1988 (выпадкова трапіла ў рукі сястры Наталлі на кватэры ў Оршы, дзе некаторы час жыў пісьменнік, працуючы настаўнікам.

„У снягах драмае вясна” ўяўляецца мне маладым і свежым парасткам, з якога потым вырасла ўся проза Уладзіміра Караткевіча. Парасткам, у якім ужо былі не многія вызначальныя рысы. І ўменне бачыць у звычайным, будзённым, узнёслае і рамантычнае” (А. Мальдзіс).

Працуючы ў Літаратурным музеі Я. Коласа, даследчык літаратуры Анатоль Верабей выпадкова выявіў агульны сшытак з казкамі, апавяданнямі і вершамі, дасланымі класіку пачынаючым пісьменнікам, а таксама тэкст верша „Якубу Коласу”, надрукаваны ў аршанскай раёнцы ў 1951 годзе.

Пазней даследчыку пашанцавала ў другі раз, калі ён знайшоў у акадэмічнай бібліятэцы рукапіс апавядання Караткевіча „Вялікі Шан Ян”, які працяглы час лічыўся прапаўшым беззваротна.

(Сёння А. Верабей працуе над выпускам 25-томніка твораў Уладзіміра Караткевіча. Ужо ўбачылі свет 14 кніг).

Аднак і з таго, што маем у дзевяці кнігах васьмітомніка, відавочна, што перад намі адзін з самых таленавітых майстроў беларускай літаратуры. Ён умела спалучаў у сабе талент гісторыка, празаіка, паэта, драматурга, эсэіста, кінасцэнарыста, перакладчыка.



Чатыры зборнікі вершаў („Матчына душа” — 1958 г., „Вячэрнія ветразі” — 1960 г., „Мая Іліяда” — 1969 г., „Быў. Ёсць. Буду” — 1984 г.) расказваюць нам аб узнёсласці яго душы і глыбіні таленту. А яшчэ аб тым, што паэзія прысутнічала ў яго жыцці заўсёды, „бруіла ў ім нават тады, калі ён ствараў далёкія ад яе творы” (В. Быкаў).

Апошні зборнік вершаў паэт паспеў вычытаць, але друкаваным не ўбачыў. Даследчыкі творчасці Караткевіча адзінагалосна сцвярджаюць, што гэта кніга — своеасаблівы запавет нашчадкам і адначасова споведзь перад чытачамі і самім сабой.

„У назве зборніка яшчэ раз сцвярджана непарыўная сувязь часоў, пакаленняў. Паэт мае права сказаць, што ён будзе, што ён адыдзе „Бясконцым Трактам неўміручасці”, бо сам ён свята шанаваў, зберагаў і памнажаў усё тое, што створана народам” (А. Мальдзіс).

Быў. Ёсць. Буду.
Таму, што заўжды, як пракляты,
Жыву бяздоннай трывогай,
Таму, што сэрца маё распята
За ўсе мільярды двухногіх.

Апавяданні Караткевіча — гэта гімн жыццю, каханню, роднай прыродзе, з якой ён быў зінтаваны душою і целам. Большасць з іх — вынік падарожжаў па родным краі: Палессе, Наваградчына, Белавежа, паўночны азёрны край — падпітвалі яго, жылі ў сэрцы заўсёды.

Паездкі па-за межамі Беларусі (Прыбалтыка, Каўказ, Сярэдняя Азія, Крым, Польшча, Далёкі Усход і г.д.) давалі не толькі багаты матэрыял для будучых твораў, але і пашыралі кола сяброў — аднадумцаў, узбагачалі душу, абуджалі настальгію. „Здалёку я асабліва палюбіў Беларусь і яе людзей. Яна ўяўлялася мне тады па-няземнаму прыўкраснай. Уся зялёная, вільготная, з азёрамі, з народам, з ягонай пявучай і звонкай мовай, з легендамі і палямі, курганамі і рэкамі”.

Пачынаючы ад студэнцкіх год, Караткевіча заўсёды цікавіла даўніна. Асабліва ён захапіўся постаццю Кастуся Каліноўскага і падзеямі, звязанымі з трагічным паўстаннем 1863 года. Спачатку планавалася дысертацыя па гэтай тэме ва ўсходнеславянскіх і польскай літаратурах, пасля ўзнікла ідэя напісаць раман. Да работы над ім пісьменнік прыступіў толькі праз 12 год пасля задумкі.

Твор быў напісаны, выйшлі з друку дзве першыя часткі, а трэцяя і чацвёртая кнігі зніклі пры таямнічых абставінах. Адам Мальдзіс схіляўся да думкі, што яны былі скрадзены разам з грашыма і часткай каштоўных рэчаў, калі Караткевічы летам 1982 года былі ў Сімферопалі: „Цепліцца надзея, што рукапіс недзе ўсплыве, што злачынства веку (пішу без іроніі) будзе калісьці раскрыта”.

Працуючы над раманам пра Каліноўскага, Караткевіч паралельна ствараў сапраўдныя шэдэўры ў розных жанрах: аповесці, казкі, эсэ, п'есы, нарысы, падарожныя нататкі і г.д.

Акрамя „Каласоў...” вядомы яшчэ тры раманы: „Нельга забыць”, „Чорны замак Альшанскі”, „Хрыстос прызямліўся ў Гародні”.

Запланавана было напісаць два зборнікі вершаў, п'есу-паэму, п'есу-баладу, п'есу-легенду аб апошніх пяці гадах жыцця Максіма Багдановіча і яшчэ шмат чаго... Але лёс распарадзіўся іначай...

Хваробы адна за другой не давалі магчымасці працаваць у поўную сілу. Уяўляю сабе, колькі б яшчэ цікавых твораў выйшла б з-пад пяра таленавітага майстра слова. Па яго аўтабіяграфічных апавяданнях можна яскрава ўявіць сабе, якім ён быў у жыцці, — таварыскім, з глыбокімі ведамі, патрыётам Беларусі, няўрымслівым у дасягненні мэт, непакорным і няскораным...

Сакрэт асобы Уладзіміра Караткевіча (асабіста для мяне) у тым, што ў яго было вялікае чалавечае сэрца і абаяльнасць, якая назаўсёды пасялілася ў маёй душы. Веру яго героям і міжволі думаю пра скарб, які прынёс у беларускую літаратуру пісьменнік.

Нізка схіляю галаву перад талентам, якім ён дзяліўся са сваім чытачом, найперш прапусціўшы ўсё сказанае-напісанае праз сваё сэрца.

**Тамара Лаўранчук, г. Высокае**

## Драўляныя дамы ў Семяноўцы

Цяпер на Гайнаўшчыне рэдка дзе стаўляюць драўляныя дамы. Чатыры гады таму пабудавалі сабе прыгожыя драўляныя хаты ў Новым Ляўкове на калёніі ды ў Капітаншчыне Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Калі зараз будуюць, то перш-наперш драўляныя дачы на беразе Семяноўскага возера, між іншым, у Новай Луцэ і Тарнопалі.

Шмат прыгожа памаляваных драўляных дамоў прыцягвае зрок у ціхай Семяноўцы. Вялікая вёска мае адзінаццаць вуліц і вулачак. Яна налічвае 409 жыхароў. У прыгожых драўляных дамах (некаторыя з іх маюць таксама прыгожыя ганачкі) жывуць Ліля Назарка, Юрка Кіслы, Юрка Панькоўскі, Славамір Кулеша, Анна і Мікалай Грэсікі, Яраслаў Бірыцкі, Мікалай Грыка, Ніна Анісковіч, Анна Шыманюк, Грыша Шыманюк, Юрый Шыманюк, Міхал Такаюк, Ян Арцішэўскі, Галена Анішчук і Мікалай Кардаш (солтыс Семяноўкі).

Іх прывабныя дамы цешаць зрок. Яны набываюць новай прыгажосці ў сонечныя пагодлівыя дні. Для мяне яны найбольш прытульныя ды такія свойскія, з адчуваннем цяпла. Я з пашанай стаўлюся да загадкавага і таямнічага тварэння прыроды — дрэва. Я — як і некаторыя жыхары Семяноўкі — у вялікім бацькоўскім доме ў Новым Ляўкове беражліва перахоўваю розныя драўляныя і гліняныя прадметы ранейшага хатняга ўжытку. Некаторыя з іх наводзяць прыемныя ўспаміны з не вельмі далёкага мінулага і прыгадваюць, што нашы вынаходлівыя продкі патрапілі зрабіць з дрэва. **(яц)**

## Рамонт платоў

Зараз вёскі на Гайнаўшчыне абязлюджваюцца і пусцеюць. Маладыя жыхары выехалі адсюль і пасяліліся ў гарадскіх кватэрах. У Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета стаяць пустыя хаты і каля іх зарослыя кустамі, травой і пустазеллем панадворкі. Таму і вёска стала сумная. Драўляныя хаты, ганачкі і разваленыя платы пачарнелі. На штыкецінах і праслах платоў вырас сівы мох. У гэтых дамах паўміралі старыя бацькі і няма каму ў іх жыць. Але нашчадкі ёсць і цяпер хаты належаць ім. Некаторыя драўляныя дамы і агароджы патрабуюць неадкладнага рамонту.

У Новым Ляўкове выгляд прыгожай вёскі псуюць там-сям ляжачыя зараз у пустазеллі прыдамашнія агароджы. Уласнікі гэтых дамоў жывуць у Варшаве, Беластоку і Белавежы. Некаторыя ўжо не прыязджаюць у свае хаты. Драўляныя платы паваліліся па сваёй старасці. Адна старая-старая драўляная хатка, акаймаваная вялікім і густым пустазеллем, ледзь-ледзь трымаецца, яна западаецца ў зямлю.

Вяртаюся яшчэ да старых і прызабытых платоў у вёсцы. Ёсць жа наследнікі і яны павінны пра іх паклапаціцца. Іх адрасы маюць Гмінная ўправа ў Нараўцы і солтыс Новага Ляўкова. Уласнікам занядбаных нерухомасцей трэба прыпомніць, каб навялі парадак у сваіх сядзібах. **(яц)**

## Дэмаграфія Кляшчэлеўскай

Паводле даных ЗАГС ад 29 кастрычніка гэтага года ў Кляшчэлеўскай гміне ў шаснаццаці населеных пунктах пражывае 2451 чалавек. Шчыльнасць насельніцтва ў гміне складае 19 чалавек на квадратны кіламетр. Тут на 100 мужчын прыпадаюць 103 жанчыны.

Найбольшыя мясцовасці гэта горад Кляшчэлі, які налічвае 1251 чалавек ды вёскі Дабрывада — 227, Дашы — 193, Палічна — 128, Сакі — 126, Сухаволыцы — 115 і Тапаркі — 98. Сярэднія і малыя вёскі гэта Пагрэбы — тут пражывае 56 чалавек, Курашава — 49, Залешаны — 48, Грузка, Рэпчыцы і Жукі — па 35, Белая Страж — 27 і Пятроўшчына — 25. У Косьнай жывуць толькі тры чалавекі. Колькасць жыхароў у Кляшчэлеўскай гміне з году ў год скарачаецца. **(яц)**

зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Міфы старажытных беларусаў

**САД** – для нашых продкаў явіўся як асобны свет, які аранжаваўся дажджом як сімвалам багацця. У беларускіх казках сад знаходзіўся на... выспах. Яго часта спалучалі з выраем — міфічным раем беларусаў.

У садзе раслі пладовыя дрэвы, на якіх сядзелі і спявалі свае песні птушкі. У некаторых вёсках на Палессі выпякалі вясельны каравай з выявай райскага саду. У такім садзе «раслі» галінкі яблынь і груш, атуленыя плотам з паперы. Разам сімвалізавалі пладавітасць і поспех. З садам было звязана шмат павер'яў. Калі сад позна зацвітаў, то гэта лічылася дрэнным знакам для гаспадароў. Каб добра завязаліся сады, у Калядную ноч людзі выходзілі босымі на двор і хадзілі па садзе. У некаторых рэгіёнах баяліся высякаць сад, дрэвы пакідалі да той пары, ажно самі ссохнуць.

На тэрыторыі Беларусі шмат мясцовасцей «з садам» у назве. Нават у нас ёсць Смаляны Садок. Гэта маленькая вёсачка прытуленая да сцяны Белавежскай пушчы. Падляшскі садок, як той райскі, спалучаны з птушкамі. У мясцовасці пражываюць Врублеўскія, таму ў народзе вёсачку яшчэ называюць «Вераб'і».

Матыў саду часта выступае ў народных песнях пра каханне. Тут сад, больш чым сад. Ён явіцца сакральный зонай, дзе маладых ставяць пад вянец і спраўляюць вяселле. Сад явіцца таксама ахоўнай тэрыторыяй, куды сыходзяць жанчыны ад нялюбых мужыкоў ды ў бяссонную ноч яны размаўляюць з месяцам і птушкамі.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

# Дрыляваная шыпшына – бесканкурэнтны гіт сезона

Канфітуры з дзікай ружы, гэта бесканкурэнтны гіт сезона. Якаснае сочыва атрымаем з дробных пладоў дзікай шыпшыны. Яна якраз даспела. Трэба аднак памятаць адну рэч, нельга збіраць плады ля гарадскіх дарог ці аўтастрады. У пошуках чыстых ягадак прапануем схадзіць у лес або наведаць ўрочышчы аддаленыя ад прамысловых цэнтраў. Пры збіранні пладоў трэба зважаць на калючкі, якія могуць параніць пальцы да крыві. Аднак найбольш часу (і цярплівасці) займае падрыхтоўка. Кожную ягадку трэба разрэзаць на палавіну і пачысціць з каменьчыкаў. Дрыляваныя плады памыць у халоднай вадзе, пакласці ў чыгунок, заліць шклянкай вады і смажыць 20 хвілін. Пасля пасаладзіць да смаку і смажыць яшчэ 5 хвілін на малым агні. Варэнне на канец прыправіць сокам з цытрыны і далікатна змікасваць. Сочыва яшчэ раз паставіць на агонь і варыць, пакуль адпарыцца вада і астанецца клейкая кансістэнцыя. Канфітуры выкласці ў слоічкі, паставіць іх у рондаль і пастэрызаваць 5-10 хвілін. Для тых, што любяць большыя часткі пладоў у канфітуры, трэба адысці ад працэсу міксавання. Падгатаванае, пасалоджанае сочыва адставіць на суткі, а пасля паўтарыць працэс гатавання, ажно да мяккасці лупінак і клейкай кансістэнцыі.



Складнікі:
1 кілаграм пладоў шыпшыны
1 кілаграм цукру
2 цытрыны
1 шклянка вады

Сочыва з дзікай ружы дасканалы дадатак да дэсертаў. Але не толькі. Гэта натуральны лек на прастуду, багаты ў вітамін C. У Скандынавіі і Нідэрландах сочыва з шыпшыны (вядома, хатняй вытворчасці) лічаць лякарствам на ўсякія балячкі. Яно спрыяе вітальнасці душы, мацуе імунітэт і лечыць раны. Пра апошнюю рэч пераканалася аўтарка гэтага допісу, якая, дзякуючы хатняй канфітуры з шыпшыны, вылечыла за адны суткі хворае горла.

гак

Міра ЛУКША

## Жабін джэм

Варыла Жаба канфітуру
з агрэсту, вішняў і парэчак,
сабраўшы ягад цэлу фуру —
лісток гарлачыка з-над рэчкі.
На сонцы пражыла варэнне,
аж булькаў сок салодка-п'яны.
Чатыры сутак, а мо меней,
каб выйшла сочыва румяным.
А ноччу канфітура стыла,
хоць рэж яе нажом, гусцела,
а днём яе далей варыла
Жаба, шкарлупкай апусцелай
махала, боўтала рагозам.
Ах, канфітура родам з мараў!
Банкету завяршэнне класна!
Наесца нават і камарык,
зваблены колерам прыўкрасным...
Камарык?.. Выпучыла вочы
Жаба, язык высалапіла.
Што там варыць тры дні і ночы?!.
Калі камарык... такі мілы?
І цап! — злавіць яго хацела
кухарка Жаба з лыжкай з лісця.
І канфітура паляцела,
а ёй камарык у вуха выцяў
і паляцеў у шэрай хмары
над рэчкай камароў насатых.
Ну, вось табе варэнне з мараў!
І не паеўшы — ідзі дахаты!

## УВАГА КОНКУРС! № 44-45-20

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 22 лістапада 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Поўна хата вераб'ёў нагната.**

**(Падказка: аранжавы шар на градках у агародзе).**

**Г.....**

**Адказ на загадку № 40: вочы. Узнагароду, запісную кніжку, выйграла Лена Карпінская. Віншуем!**

# Гісторыя
## аднаго прысвячэння




Не за гарамі, не за лясамі, але даўным-даўно, 3 мая 1978 года ў Пачатковай школе ў Арэшкаве з'явіўся элегантны паэт Віктар Швед. Мне ў гэты момант хутка мела «стукнуць» трынаццаць гадоў. Для такога жэўжыкаватага падшпарка хвіліны без урокаў здаваліся на пачатку самым важным момантам гэтага дня. Бо ж няма большай радасці сядзець азадкам на паркеце гімнастычнай залы і ў выкрунтасах выціраць пыляву і праціраць свае нагавіцы і на каленах і на той частцы цела на пяць літар. Пры нагодзе локцем можна было засунуць пад рабро сваім аднагодкам, пацягнуць дзяўчаты за косы, каб тыя запішчалі і абавязкова кінуць скручанымі кулькамі паперы з пластылінам у іх валасы. Адным словам, меў я сваю канцэпцыю аўтарскай сустрэчы з паэтам. Спачатку ўсё ішло па маім сцэнарыі. Настаўніцы спадцішка кідалі ў наш бок строгія позіркі і махалі пальцам. На практыцы гэта абазначала, як мінімум, чырвоныя і апухлыя вушы пасля сустрэчы ад круцелістых настаўніцкіх далоняў. Ну як ужо атрымаць за сваё і ад настаўнікаў, а потым вядома, дома ад бацькоў ужо ў другое месца, дык трэба ведаць за што.

Але ў гэты момант мае далейшыя планы паўстання абяззброіў менавіта … Віктар Швед. Маючы перад сабою зграю пушчанскіх дзікуноў, пачаў без аніякіх далейшых расказаў чытаць вершы пра сваіх паэтычных герояў, якія таксама не былі надта паслухмянымі, а на свой спосаб дасціпнымі і цікавымі свету. Тым тэкстам, якім даканаў ён маю цялячую разбрыканасць, аказаўся верш пад загалоўкам «Не забывай». Пра тое, што пісаў паэт, часта нам, чатыром братам, паўтараў падобнае і мой тата. І мне сталаў гэты момант сорамна, што паводжу сябе так дурнавата. А гэты верш стаўся з гадамі адным з найбольш мною любімых і вывучыў я яго на памяць. З гэтага моманту сустрэча пачала мне ўжо падабацца. Маім сябрам хіба таксама. Перасталі і зусім пішчаць дзяўчаты, якія рэгулярна выкрыквалі на поўны голас: „Proszę pani, a on mnie kole."

Памаленьку над арэшкаўскай гімнастычнай залай заўладарыў голас Віктара Шведа і ягоныя вершы, якія нам раптам сталі зразумелымі і… павучальнымі. Рагаталі мы з некаторых, але над многімі сціхлі і задумаліся. Паэт чытаў і тлумачыў нам, як важным ёсць ад малога да старога быць беларусамі Беласточчыны. І ўцягнуў нас у размову. А я і іншыя замест хуліганіць, пачалі ставіць госцю пытанні. Пэўна былі мы наіўнымі і дурнаватымі, але кожны ўзрост мае свае правы.

Як заўсёды пры канцы сустрэчы аўтар падпісвае свае паэтычныя зборнікі. У мае рукі патрапіў невялікі зборнік паэзіі «Дзяцінства прыстань» з наступным прысвячэннем: «Дарагому Другу Жэніку Ваппе — удзячны за разумныя пытанні, з пажаданнямі, каб таксама пісаў вершы. В. Швед, Арэшкава, 3.V.1978 года».

З гэтай пары праз усе пазнейшыя гады нашага знаёмства Спадар Віктар не звяртаўся да мяне не інакш як толькі Жэнік.

А цяпер знайце, што здарылася 32 гады пазней. Менавіта 23 сакавіка 2010 года, у дзень народзінаў паэта, адзначалася ў Беластоку яго 85-годдзе. І папрасіў я тады Віктара Шведа, каб на маім першым, атрыманым з яго рук зборніку «Дзяцінства прыстань», зрабіў ён для мяне яшчэ адно прысвячэнне. І я атрымаў такі падарунак. Для мяне гэты зборнік — адно з самых каштоўнейшых выданняў у маёй хатняй бібліятэцы. За кожным разам, калі яго перачытваю, паўстаюць вобразы майго дзяцінства, Бацькоўскага дому, беларускага слова, прыгадваецца і першая ў маім жыцці сустрэча з беларускім паэтам.

**Яўген ВАПА**



# Мой першы паэт не ў рамках

У нашу школу ў Семяноўцы прыехала госця з «Зоркі» (пані Яніна Чарнякевіч), беларускі дзеяч, вельмі высокі — дзядзька Васіль (Дзун), і паэт у акулярах, ціхі і лагодны, які чытаў нам свае вершы. Мы першы раз убачылі жывога паэта — а ж на сцяне класа, дзе мы вывучалі беларускую мову і літаратуру, тыя паэты віселі — не за гасцямі (каля арла віселі партрэты польскіх кіраўнікоў краіны) — а на сцяне збоку. Былі там Колас, Купала, Багдановіч, Крапіва. Мы чыталі вершы гэтых вельмі старых, падручнікавых паэтаў, прыгожыя, але… папяровыя. А перад намі стаяў жывы, румяны, усміхнуты дзядзька, які казаў нам пра родную старонку, парог у нашай хаце і пра нас, непаседлівых жэўжыкаў, што тупаталі па нашай прыгожай школе, вакол яе і каля царквы святога Георгія, што забіў злога змея. Гэта таксама было наша месца, звычайнае, але і святое, пад старымі дрэвамі, адкуль да нас азываліся сотні галак: «Птак! Птак!». І цяпер, калі чую пошум векавых дрэў і гоман птушак, успамінаюцца мне сонечныя блікі ў акулярах заўжды жывога Віктара Шведа і радкі з яго вершаў. А тады я нясмела прызналася, калі паэт і пані Яня спыталіся: «Хто з вас піша?» — «Я пішу!». Тады я не ведала, што і пані «Зорка», і паэт прывядуць мяне ў «Ніву» і «Белавежу». Атрымала я тады ад іх алавяны радок з друкарні, які зрабіла пані Вера, што набірала на вялікім апараце -лінатыпе «Ніву», і я пасля даведалася як друкавалася «Ніва» з «Зоркай», і «Беларускія календары» ды кнігі, і сама таксама надрукавала гарачым волавам «Школа ў Семяноўцы» — мой родны парог. Дзякуй Вам, Віктар Швед, за крокі да роднага слова!

**Міра ЛУКША**

# Польска-беларуская крыжаванка № 45-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 40-20:**
Сноп, прым, панама, на, кош, дуля, Тарас, журавель, журавіны, канькі, ар, сакрэт. Каб, нос, спор, наш, жулік, тон, тур, падарак, мурава, палавіна, ясень, сын, лыка, масць, Іра.

Узнагароду, **беларускія літаркі на каляровыя алоўкі,** выйграла **Ягна Самойлік** з Гайнаўкі. Віншуем!



# І прышла вайна ...

(ч. 16)

Быў ужо гатовы спісак на вывазку ў нязведаную даль так званых кулакоў і царкоўнікаў у нашай вёсцы, назбіралася пакуль 16 сямействаў. А гэта быў, лічыць, першы тур. Мелі вывезці іх 23 чэрвеня ў панядзелак, аднак не паспелі, бо раніцай 22 чэрвеня ўспыхнула вайна паміж фашысцкай Германіяй і Савецкім Саюзам. І такім чынам вайна выратавала гэтых людзей. І ў нейкай дозе і малой меры і яна можа быць збавеннай, хаця гэта мо і гучыць абстрактна і мала зразумела.

А салдаты з лапатамі, дзе служыў мой бацька і шмат іншых жыхароў нашых вёсак, калі грымнула навальніца вайны ў нядзелю 22 чэрвеня 1941 года, проста разбегліся, кінуўшы сваю зброю-лапаты дзе куды і ратаваліся, як хто мог. Іх жа сілай і абманам загналі былі над Буг рабіць непасільную работу над «точкамі»-бункерамі перакідваючы з пустога ў парожняе, бо з гэтых «точак» не вылецеў ні адзін выстрал. А такія палітрукі, як папярэдне згаданы Вайтэнка, першыя пабеглі, захапіўшы з сабою трафейныя ад палякаў швейныя машыны, але не ведаю, ці яны калісь ім пасля прыдаліся. А многім рускім сталінская ўлада так «спадабалася», што не хацелі яе бараніць, кідаючы зброю здаваліся ў палон немцам, думаючы што тыя хаця іх належна накормяць. Аднак выйшла інакш і Гітлер і яго хеўра не скарысталіся гэтым і мо таму і прайгралі. Толькі трэба было сказаць і праўдзіва: будзе Расія, ды толькі без бальшавікоў і іх падхалімаў, без ненавісных калгасаў і мы вас, славян, цэнім як саміх сябе. І думаю, тады рускія самі зрабілі б парадак у сябе. Але на шчасце хеўры Сталіна і ярых камуністаў, Гітлер меў іншыя планы, а іменна рускіх і іншых славян пусціць з дымам; а калі так, дык мы, рускія, маем свой гонар; лепш служыць свайму д'яблу, а не чужому. І ў гэтым выпадку сам Гітлер «пайшоў» на руку Сталіну, зноў яго па-свойму нават паважаў.

Што ж, Гітлер хацеў усіх габрэяў (а гэта выбраны Богам народ) знішчыць датла і Хрыста ўжо палічыў «чыстым арыйцам», хаця Той па нацыянальнасці быў чыстым яўрэем. Сталін таксама ненавідзеў яўрэяў, але іх, як і рэшту народаў, знішчыў у іншы спосаб, каб «кроў высмактаць і раны не ўчыніць», інакш: на іх касцях пабудаваць магутную дзяржаву, магутную індустрыю, магутную без спагады і чалавечнасці палітычную паліцыю... Хаця яго планы былі намнога шырэйшыя.

А цяпер вернемся да маёй вёскі напярэдадні і ў першыя дні вайны. У нядзельку 22 чэрвеня 1941 года было ўжо чуваць на захадзе і не толькі магутныя ўзрывы і гул самалётаў і простыя людзі ўжо зразумелі і некаторыя нават з палёгкай на сэрцы, што гэта вайна, і выносілі з хат свой скромны дабытак у бяспечныя месцы. Але актывісты думалі інакш, яны лічылі, што гэта манеўры магутнай савецкай арміі і нават цешыліся ўспамінаючы «прарочыя» словы песенькі: «Мы войны не хотим, но себя защитим, оборону крепим мы недаром...». Ды неўзабаве «прачнуліся», калі над вёскай ляцелі самалёты са свастыкай і рваліся снарады навокал і вёска гарэла; першыя ўцяклі ў кусты густой крапівы і нават яна не пякла іхняга цела. Што ж, вайна, і пакуль не відаць ніякіх герояў.

Саветы акапаліся за вёскай недзе ад Бахматаў аж на лініі перад нашай рэчкай Арлянкай і мо далей 300 метраў ад яе ў кірунку Грабаўца. Тут ішлі баі на смерць і жыццё і па савецкім баку загінула



больш як 400 салдат (бо калі гналі немцаў назад леткам у1944 годзе, дык у нас загінула маса байцоў) і іх целы хавалі дзе папала і то нашы людзі. У іх гонар нават пастаўлены ў нас помнік у парку па вуліцы Парковай, як вызваліцелям. А ці яны ў чэрвені 1941 года маглі быць нашымі вызваліцелямі? Калі наша тэрыторыя ажно да Буга была акупіравана імі — саветамі? І на сваёй скуры мы адчулі смак гэтага «вызвалення»? Тут наша гісторыя ілжывая і поўная хлусні таго менавіта часу. Толькі ў Лукашэнкі і ў расіян 17 верасня 1939 года ўяўляецца вялікім святам нашага «вызвалення». А гэта поўная чара абману і хлусні!

Вярнуся зноў да гэтых падзей; як ведаем, савецкіх байцоў загінула мноства ў час баёў, але былі страты і ў немцаў, але колькі іх было? Ніхто не ведае, бо тыя сваіх ахвяр з месца забіралі і вывозілі. Напэўна, іх было намнога менш. Савецкія часці знаходзіліся таксама каля Старога Корніна, але як там праходзілі ваенныя падзеі? Не ведаю. Немцы былі каля Грабаўца. У днях ад 24 да 26 чэрвеня 1941 года немцы пацыфікацыі Дубічы і ад выбухаў снарадаў і куль вёска загарэлася і згарэлі там 53 дамы і 169 сельскагаспадарчых будынкаў. Ацалела (у тым ліку і вялікі дом маіх дзядзькоў) дванаццаць дамоў і стары дом псаломшчыка, у якім пасля пажару пасяліўся святар Іван Якубюк. У час пацыфікацыі вёскі гітлераўцамі адбываліся драматычныя падзеі, бо ў сяле знаходзілася жменька байцоў і адзін з іх быў ранены і ляжаў на зямлі, а побач яго коўдра; нехта зжаліўся над ім. І гэта было ў кутку вёскі званым Крынічаны. Адна бабулька падбегла да немца, які крочыў вуліцай і кажа: «Тут недалёка ляжыць ранены рускі і трэба яго палячыць». Той кажа на чыстай польскай мове: «Prowadź mnie tam!», а калі зайшлі, кажа: «Ja go teraz wyleczę!» І выняў з кабуры пісталет (а бачу ў жаху паспеў схавацца пад коўдрай) і некалькі раз у яго выстраліў, і, вядома — небарака загінуў.

А ў агародзе маіх дзядзькоў, дзе яшчэ стаяў ацалелы дом пакрыты бляхай, засеў нейкі савецкі кулямётчык і давай страчыць чаргой да прыбліжаючыхся немцаў, ды хіба нікога з іх не забіў. Тыя крочаць да яго: «Рус, здавайся, і будзеш жыць!». А той далей страляе да іх, ну і, вядома, скора яго рашылі. І кажуць, што ўжо цяжка ранены перад смерцю прастагнаў: «Товарищ Сталин, почему ты меня не спасаешь?». Так ім у галаў палітрукі і камандзіры ўбівалі тое, што калі ты будзеш ваяваць з ворагам пад імем таварыша Сталіна, дык ніякая варожая куля цябе не дасягне. І яны ў гэта свята верылі, хаця, вядома, не ўсе. Многа значыць ілжывая прапаганда для пустых галоў. І восенню 2016 года менавіта ў сваім агародзе я знайшоў некалькі пустых гільзаў ручнога кулямёта, з якога страляў да немцаў той адданы Сталіну кулямётчык. Значыць тое, пра што я калісьці пачуў з гэтай гісторыі — праўда.

Цяпер спынімся на гэтым і вернемся да гісторыі, калі мой бацька вяртаўся дамоў з-над Буга. Калі такія адданыя справе камуністы-палітрукі, камандзіры кудысьці разбегліся, дык што мае рабіць салдат з лапатай? Ясна: трэба спяшаць да сваіх, дамоў. Так і мой бацька — недзе ў вёсцы памяняў сваю скромную савецкую вопратку на цывільную, недзе раздабыў і шапку, каб закрыць астрыжаную галаву і палявымі дарожкамі пайшоў дамоў і недзе каля Браньска ўбачыў у кузаве разбітага савецкага грузавіка розную драбязу — сшыткі, алоўкі, лінейкі, дык штосьці з гэтага багацця ўзяў — пару сшыткаў, пару алоўкаў, і схаваў да пазуху, не падумаўшы што гэтая дробязь можа давесці і да бяды. Бо калі б немцы яго недзе схапілі і знайшлі ў яго гэтыя рэчы, а меў ён яшчэ і астрыжаную галаву, дык лёгка маглі яго палічыць шпіёнам, а ў ваенны час ніхто не разбіраўся і не цацкаўся. Але, на шчасце, да гэтага не дайшло. А вось ужо блізка роднай вёскі на дарозе з Орлі перад нашымі могілкамі на павароце здалёк убачыў пры абочыне гэтай дарогі нейкі абоз. А гэта нямецкія салдаты там адпачывалі і абедалі. Што рабіць? І бацька ціха павярнуў свае крокі направа і схаваўся ў кустах блізка рэчкі. Але тут на бяду кусты ўсюды былі рэдкія і тут бачыць: ідуць з кацялкамі два нямецкія салдаты па ваду і штосьці ажыўлена гергечуць паміж сабою. Прайшлі мо 20 метраў ад бацькі і не зірнулі ў яго бок, а яго было відаць як на далоні. А ішлі назад, і таксама не глянулі ў яго бок. Гэта дзіўна. А калі б глянулі? Стаіць за рэдкай альшынай нейкі чалавек, прытым астрыжаны, а за пазухай у яго схаваныя сшыткі, алоўкі і некалькі лінеек? Відаць Бог даў, каб да бяды не дайшло.

І тут мой бацька рашыў: няма чаго хавацца ў кустах на сваю пагібель, і смела, хаця асцярожна, выйшаў на дарогу ды ідзе. Зраўняўшыся з салдатамі нізка ім пакланіўся і за казырок шапкі рукою — як бы яе прыпадняць, і немцы, задаволеныя яго паставай, з усмешкай адказалі на прывітанне. І бяда прайшла. Што ж, дома застаў ён адны папялішчы — ні двара, ні кала — усё згарэла. І сон маці збыўся, і Сцепаніда дакладна яго разгадала.

Але гэта не канец мытарствам нашых жыхароў на пачатку гэтай страшнай вайны. Пасля першых жудасных дзён і пажару вёскі прыйшла другая хваля выпрабаванняў і бяды. Менавіта ў лесе Княжыны недалёка ад Крывятыч адбілася ад сваіх вялікая ваенная частка і гэта яна, як навальніца ўначы, а была тады хіба пятніца, наведала нашу вёску. На пачатку вёскі над рэчкай Арлянкай, каля сажалкі на сядзібе бацюшкі, разлажыўся невялікі ваенны абоз, у тым ліку і палякі. І вось усіх гэтых абознікаў савецкія салдаты пакалолі сваімі штыкамі. І толькі адзін нямецкі салдат ацалеў і прыбег у Грабавец толькі ў адных кальсонах і там падняў трывогу сярод немцаў, якія там былі. Чуў я яшчэ і такую вестку, што адзін ацалелы немец (можа той самы?) схаваўся ў нашага селяніна Аляксея Герасімюка, а яго хата стаяла (і сёння стаіць) недалёка ад гэтай сажалкі і Аляксей надзейна прыхаваў гэтага чалавека. Можа гэта прычынілася да таго, што немцы трохі прыхыльней глянулі на дубічлян у гэтыя першыя дні вайны, і хатка Аляксея не была спалена, і не было жорсткай расправы над намі. Бо як ні ёсць, загінула больш за 30 немцаў і не немцаў, хаця гэта не партызаны ўчынілі гэты напад, а франтавікі — але ўсяго можна спадзявацца на ваенных сцежках. Няма жартаў. Гэтыя байцы, што расправіліся з абозам — іх было многа і нават ехалі на аўтамабілях, мелі гарматы — хіба цэлы дзень у нас прабывалі ды падаліся ў бок Белавежскай пушчы. І некалькі нашых жанчын пакалечылася. І нашых людзей ахапіў жах, бо адны паспяшалі чамусьці да Кляшчэль, а некалькі пабегла ў глухую вёсачку Рутка і там, на бяду, знайшлі сваю смерць.

Ужо і бацька быў дома, і ўся мая сям'я з дзедам Шулем апынуліся ў той групе, што пабегла ў Кляшчэлі. Бабуля Гапка чамусьці ключом замкнула хату дзядзькоў, бо яна з імі жыла з мужам Шулем, і толькі ад вуліцы дзверы былі пад замком, бо тыя ад панадворка былі адчынены. Баяліся зладзеяў? У ваенны час няма чаго іх баяцца. А людзі многа свайго небагатага дабра перанеслі ў гэту хату на сховішча, бо амаль усё ў вёсцы было спалена. І калі саветы-байцы, што ўчынілі напад (бо так і сёння завуць гэты пачын) над сажалкай, адышлі і вёска апусцела ад жыхароў, дык немцы скора завіталі да нас...

(працяг будзе)

Мікалай ПАНФІЛЮК

Міхал МІНЦЭВІЧ

# Жыдоўскія вяселлі ў Орлі

Арлянскія жыды цягам амаль чатырохсот гадоў стварaлі на мясцовай зямлі ўласны свет: тут жылі, працавалі, будавалі, вучыліся, маліліся, давалі працу і дапамагалі хрысціянам.

Сужыццё мясцовых аўтахтонаў з жыдамі — як паказвае першая палова XX стагоддзя — было ўзорнае, пра што сцвярджаюць у архіўных дакументах самі жыды. Адбывалася гэта ў многіх жыццёвых праслойках. Жыды давалі хрысціянам працу, а калі ў час пажару 18 мая 1938 года жыды патрацілі свае дамы, то многія хрысціяне ўзялі іх у свае хаты і жылі разам. Дружылі з сабою і нават даходзіла да мешаных шлюбаў насуперак рэлігійным рэкамендацыям.

**Заручыны і шлюбы**

Паводле інтэрнэтнага партала sztetl.org.pl прынцыповай павіннасцю кожнага жыдоўскага мужчыны з'яўляецца заснаванне сям'і і прыдбанне дзяцей. Даўней самотныя асобы не карысталіся пашанай (у Орлі старых дзевак людзі называлі матронамі). Да канца XIX стагоддзя (у арлянскіх хрысціян і ў санацыйны час) жыдам у выбары партнёраў дапамагалі сваты — шадханімы. За сасватанне сват атрымліваў 2-3% пасагу маладой. Сіроты і дочкі бедных жыдоў былі фінансава падтрымліваны жыдоўскай гмінай. (У Орлі, як успаміналі старажылы, жыды для такой дапамогі збіралі грошы ў сінагозе.) Часта маладыя не зналіся раней. Апрача згоды сем'яў, пыталіся таксама маладых пра згоду. Калі маладая не мела трынаццаці гадоў, пра згоду часта не пыталіся. Старэйшыя таксама не заўсёды жаніліся паводле свайго выбару. Заручыны маглі быць сарваны, але такія паводзіны не паважаліся.

У міжваенны перыяд аб шлюбе вырашалі самі маладыя, грунтуючы свой выбар галоўным чынам пачуццём, а не маёмаснымі справамі.

**Вяселле**

Асабліва шчаслівымі днямі шлюбу лічыліся аўторак і пятніца. Да вяселля маладыя не бачацца некалькі дзён дзеля ўзмацнення тугі. У дзень шлюбу маладыя знаходзяцца ў асобных памяшканнях, дзе адбываюцца іхнія гасціны. Маладых велічаюць як каралеўскую пару. Маладая сядзіць на прыгожа прыбраным крэсле, быццам на троне, прымаючы ад гасцей віншаванні і пажаданні. У памяшканні маладога спяваюць песні. На канец малады разам з суправаджаючым шэсцем прыходзіць да сваёй абранніцы і закрывае ейны твар вэлюмам — сімвалам чысціні і сціпласці, абазначаючым таксама, што цялесная краса ў сужонстве не найважнейшая. У дзень шлюбу маладыя апрануты ў белае — сімвал іх бязвіннасці.

Урачыстасць зашлюбін адбываецца на дзядзінцы сінагогі або дома малітвы і навукі. На шлюб маладыя прыбываюць асобна. Над маладымі ставіцца балдахін (хупу) — аздобную тканіну на ручках, адкрытую з бакоў, што з'яўляецца метафарай будучага дома, адкрытага і гасціннага. Шлюб дае рабін. Карагод вясельнікаў падыходзіць да хупы са свечкамі ў руках, сімвалізуючымі асвятленне будучай жыццёвай дарогі. Пасля сужонскай прысягі знімаецца вэлюм з твару маладой. Рабін благаслаўляе віно, якога глыток выпіваюць маладажоны. Наступае абмен пярсцёнкамі. У яго ходзе малады выказвае словы «Гэтым пярсцёнкам пасвячаешся мне згодна закону Майсея і Ізраіля». Пасля зачытання кэтубы — сужонскага кантракта, благаслаўленняў і выпіцця келіха віна, келіх разбіваюць як сімвал знішчанага Іерусалімскага храма. Маладых абкідаюць рысам і арэхамі, віншуюць і падаюцца на вяселле.

На вясельнай гасціне, асабліва ў міжваенны час, малады гаварыў кароткую талмудычную лекцыю. Маладым уручаюць падарункі; бацькі маладой уручаюць маладому талэс — малітоўны шаль. На вясельны стол падаюць мноства страў, да танцаў падыгрывае капэла. Ночку маладыя падаюцца ў асобную спальню дзеля смакавання заключанага сужонства.

**У міжваеннай Орлі**

Хрысціяне любілі прыглядацца жыдоўскім вяселлям. Хрысціянскія жанчыны ішлі прыглядацца прыгожа апранутым вясельнікам; такія строі хрысціянкам былі не па кішэні. Хрысціянкі, што служылі ў жыдоў, рыхтавалі таксама стравы і падавалі іх на вясельны стол. За вясельным сталом жыды не спявалі, не ўпіваліся.

Успамін **Наташы КАМАРЧУК** з роду Пятроўскіх з Орлі (1905-1997), якая падавала на стол на вяселлі:

— Вяселле спраўлялі на дзядзінцы перад сінагогай. Вянчаў рабін, маладая мела закрыты твар, а як звянчаліся, то знімалі тую хустку і малады мог пабачыць каго ўзяў. Калі жаніўся бедны жыд, то яму дапамагалі іншыя. У жыдоўсім доме малітвы і навукі збіралі ім грошы; жыды сабе дапамагалі.



Арлянскі пажарны духавы аркестр у 1930 годзе. Стаяць (злева направа): Ершуль Мікляцкі, Аляксандр Карнееў, Аляксандр Ярымовіч, Зейтко Фельрэгер, Канстанцін Мураўскі і Міхал Альшэўскі. Сядзяць: Аляксандр Мартыновіч (потым ажаніўся з жыдоўкай Гітляй), Мечыслаў Радзеванюк, Уладзімір Акушка, Дэмбіцкі — загадчык школы, Шэйкін Тапалянскі і Менахем Цымбал

За вясельным сталом жыды не пілі многа; ніхто не бачыў п'янага жыда. Былі аранжад, шампанскае ці па кілішку кашэрнай гарэлкі, многа пірожнага, цукеркаў. Гэта не так, як у нас, калі панаядаюцца, панапіваюцца. Жыды за сталом не спявалі. Жыды танцавалі так, як і нашы. На нашы забавы, ладжаныя праваслаўнымі, прыходзілі жыдоўкі. Танцавалі ў жыда Мошка Вадзілоўскага пры Бельскай. У яго таксама быў ладны сад (побач двара Амеляновічаў).

Успамін **Зінаіды НЯДЗЕЛЬСКАЙ** з роду Карач з Орлі (1916-2001), („Аб вайне і арлянскіх яўрэях", „Ніва" ад 17.01.1999):

— Памятаю жыдоўскія вяселлі. Маладых вянчаў рабін на дарозе перад Вялікай сінагогай. Шлюбная пара ставала на спецыяльны дыванок, пад балдахінам. Вэлюм закрываў галаву маладой спераду. Калі маладыя абмяняліся пярсцёнкамі, тады рабін падаваў ім віно. Потым кілішак кідалі далёка за сябе, каб разбіўся. На вясельных сталах было многа ласункаў, арэхаў, пірожнага. Госці пілі па адным кілішку слабой кашэрнай гарэлкі. На танцах не толькі гулялі, але і спявалі. Гэта быў вясёлы народ. Жыды ў Орлі былі вельмі інтэлігентныя і культурныя людзі. Пры іх жыла дваццаць пяць гадоў, але ніколі не бачыла п'янага жыда. То быў вельмі гандлёвы народ, кожны мусіў чымсь гандляваць.

Жыдоўская моладзь апраналася вельмі модна, бо ў іх былі сваякі ў Амерыцы (арлянскія зямляцтвы), якія прысылалі шыкоўную вопратку. Мы спецыяльна хадзілі пасля абеду на рынак, каб паглядзець, у што апранаюцца жыдоўскія модніцы. Былі гэта прыгожыя жанчыны.

Жыды жаніліся між сабою і пасля доўгага знаёмства, нярэдка нават пасля васьмі гадоў. Сям'я маладой рыхтавала багаты пасаг. Бедным жыдоўкам цяжка было выйсці замуж. Здараліся і старыя дзевы, якіх называлі матронамі. Калі жаніліся бедныя, іншыя жыды ўспамагалі іх — збіралі ім грошы ў бажніцы падчас шабасу і ў жыдоўскай школе.



Зінаіда Нядзельская

Успамін **Аляксандра КАРНЕЕВА** з Орлі (1910-2002); быў у добраахвотнай пажарнай камандзе і ў духавым аркестры:

— Вельмі часта гралі мы — пажарны духавы аркестр — на жыдоўскіх вяселлях; пад гукі марша праводзілі маладую пару і вясельны карагод, а потым гралі на танцах, найчасцей у будынку жыда Мошка Вадзілоўскага, дзе была сцэна. У тым самым будынку Вадзілоўскі трымаў краму.

За вясельным сталом жыды гарэлкі амаль не пілі. Выпівалі сама больш па паўкілішка, а на ўсё вяселле хапала ім паўлітра гарэлкі. Нам, музыкантам, апрача грошай, давалі выпіць, два літры на дванаццаць чалавек — то была норма! І добра давалі закусіць, напрыклад тушанае гусінае мяса і таму падобнае. Хаця арганізатары плацілі аркестру, то танцоры плацілі нам таксама — за кожны танец. Калі наш калега з аркестра, жыд, жаніўся, то аркестр іграў яму бясплатна. У той час нельга было граць румбы, бо той танец лічыўся непрыстойным. [У Еўропе румба, у мадыфікаванай форме, была спапулярызавана пасля Другой сусветнай вайны.]

Успамін **Цімафея ВАЛАСОВІЧА** з Кашалёў (1921-2011):

— На танцавальныя забавы ладжаныя жыдамі ніхто надта не рваўся, але калі нашы праваслаўныя хлопцы рабілі патанцоўку ў Кашалях ці ў Орлі, то «ўсе» жыдоўкі збягаліся на яе. Любілі яны праваслаўных хлопцаў, любілі з імі патанцаваць і пажартаваць.

Успамін **Яна ГАВОРКІ** (1931 года нараджэння) з Кашалёў:

— Была ў Кашалях сваячка Нінка, прыгожая, найбагацейшая. І жыды прыходзілі ў Кашалі на забаву; забавы ладзілі ў хатах. Жыд запрашае да танца, а нашы дзяўчаты не хочуць. А тая Нінка: «Эй, жыдэ, ходы танцаваты, будут свіні шыховаты!» І ўсе «Аля-ля», і ўсе пайшлі танцаваць з жыдамі.

Успамін **Алекса ШАЙКОЎСКАГА** з Орлі (1921-2008):

— Я ніколі не бачыў, каб арлянскія жыды біліся або ўпіваліся, пераварочваліся. Натуральна, і яны заходзілі ў гасподу і выпівалі там па сто ці дзвесце грам, але што гэта значыць для здаровага чалавека. Затое калі нашы пасля набажэнства ў царкве заходзілі ў гасподу жыда Бэрка Смагляра, то па некалькіх гадзінах бывала па-рознаму. У аднаго з носа ляцела кроў, іншы меў абарваны каўнер, падбітае вока...

Успамін **Мікалая БАГАЦЭВІЧА** з Орлі (1926-2019):

— Другую гасподу ў Орлі, пры вуліцы Бельскай — меў жыд Вадзілоўскі. Таксама там было можна з'есці і напіцца, але апрача таго адбываліся там забавы і патанцоўкі. Граў пажарны духавы аркестр з жыдамі і хрысціянамі ў складзе. Але мала які з нашых гаспадароў мог сабе дазволіць на папіванне ў гасподзе; задорага было бедным сялянам. Заходзілі кафляры і тыя, што мелі працу.

**Сужонствы жыдовак з праваслаўнымі**

З міжваеннага перыяду вядомы тры арлянскія сужонствы з праваслаўнымі, у якіх нарадзіліся дзеці. Былі гэта два сужонствы ў самой Орлі і адно арлянскай жыдоўкі з жыхарам суседніх Міклашоў...

Успамін **Наташы КАМАРЧУК**:

— Жаніліся з нашымі. Такога праваслаўнага, які ажаніўся з жыдоўкай, жыды называлі «шэйгес», бо жыдоўскі хлапец гэта менавіта «шэйгес». Тут, у нас, так неафіцыйна, нават пасля вайны, звалі Сашачку Мартыновіча, які ажаніўся з жыдоўкай Гітляй. Але — гаварылі людзі — ён яшчэ "за немца" ўзяў развод і паўторна ажаніўся, ужо з праваслаўнай дзяўчынай, бо баяўся немцаў.

Успамін **Уладзіміра ПАСЕЧНІКА** з Орлі, 1929 года нараджэння:

— Сашачка Мартыновіч меў жонку Гітлю, жыдоўку. Мелі сынка Мэйшы, панашаму Міша. Шуцман з суседства гаварыў Сашачку: «Ты выганяй тую жыдоўку і сына, бо пойдзеш разам з жыдамі». І ён рад-няволя. Але яна, калі адыходзіла,

чытайце ☞ 11

1 ☞ працяг **Алесь Барскі**

вым і сумленным у жыцці, бескарыслівым ахоўнікам роднай прыроды і нацыянальнай культуры і перад усім — патрыётам роднага краю.

Алеся Барскага добра ведаюць у кожнай мясцовасці на Беласточчыне — у школах, цэнтрах культуры, вядомы ён таксама быў як шэф Беларускага таварыства, аўтарытэтны прадстаўнік беларускай культуры і ў замежных краінах, і ў Беларусі. Член Саюза польскіх літаратараў і Саюза беларускіх пісьменнікаў».

**Алесь Барскі**: «Маё жыццё прыпала на вельмі **цікавы гістарычны перыяд**. Прыйшлося мне перажыць даваенную Польшчу, савецкую ўладу ў 1939-1941 гадах, нямецкую акупацыю, народную Польшчу і дажыць да Рэчы Паспалітай Польшчы. Адным словам, пяць палітычна-дзяржаўных фармацый уварвалася ў мой побыт. Належу да людзей у нейкай ступені раздвоеных духова. Як беларус атаясамляючыся з беларускім народам, а як грамадзянін — атаясамліваюся з Польскай дзяржавай. Зрэшты, усё болей прыхільным позіркам пагладаю на ідэю прыналежнасці да еўрапейскай ці нават сусветнай грамадскасці або, як кажа адзін з герояў Ісаака Бабеля — інтэрнацыянала добрых людзей.

**Аб песні і малітве.**

«Найпрыгажэйшая песня і малітва, даступная ў нашай краіне кожнаму чалавеку, ёсць песня і малітва лесу. Нельга прайсці ці праехаць і дзесяць кіламетраў, каб не наткнуцца на пралесак, дуброву, лес, пушчу. І гэта бадай што найвялікшае і найпрыгажэйшае багацце, даступнае кожнаму чалавеку. Можам у кожны лес увайсці з кожнага боку і адчуваць сябе ў ім гаспадаром. Лясная песня, малітва і ціша становяцца тваёю ўласнасцю. Пайдзі ў лес, прыстань, паглядзі, прыслухайся і задумайся над сэнсам свайго жыцця, над яго мімалётнасцю і над вечнасцю бору! (...) Пачынаеш здаравець целам і душою. Разам з жывічнымі пахамі лес улівае ў тваю душу нейкі невыказны спакой, нейкае прымірэнне са светам, нейкую веру ў сэнс нашага існавання. Прыносіць ён упэўненасць, што ёсць на гэтай зямлі нешта вечнае, чаму чалавечая асоба мусіць пакланіцца, што мусіць ушанаваць і перад чым павінна пакарыцца. (...) Лес дзеліцца з табою сваімі каштоўнасцямі, улівае ў твой арганізм частку свайго здароўя, сілы і разнаколернасці. (...) Памятай, што з усіх істот на свеце дрэва найбольш высакароднае, альтруістычнае і чалавечнае. Яно дае табе вечна музыку, спеў, зацішак, колер і пах — і нават тады, калі памрэ ад сякеры, дасць чалавеку цяпло, жар, попел. А калі памрэш, споўніць апошнюю паслугу — дасць дошкі на труну. (...) Баронячы лес, баронім адвечную песню і малітву. (...) Растуць лясы і, як бы зялёныя ніты, звязваюць зямлю з небам. І мы, людзі, жывём побач нашых братоў і сясцёр-дрэў. Шануйма і кахайма іх так, як шануюць і кахаюць яны нас».

**Аб любові.**

«Ёсць яшчэ ў беларускіх вёсках катэгорыя людзей, беспамятна адданых зямлі. Мабыць, гэта ўжо апошняя генерацыя тых беларусаў, для якіх зямля, гаспадарка была не толькі тым, што запэўнівае чалавеку матэрыяльны быт, але і свайго роду рэлігіяй, духоўнай стравай. Адзін з жыхароў Лукі, якая трапіла пад вадасховішча Семяноўка, калісьці загледзеўшыся на загоны, як бы ў забыцці сказаў мне: «Як жа не любіць гэтую зямлю. Яна ж мне пахне». Вось у гэтых словах і праяўлялася свайго роду веравызнанне нашых дзядоў, бацькоў (...). Людзі, якія працуюць на зямлі, самаахвярныя і па свайму нутру прыгожыя. Гэта яны соль нашай зямлі. Гэта дзякуючы ім трымаецца ў нашых вёсках беларуская і адвечна этнічная спецыфіка. (...) Зямля некаханая не родзіць. На жаль, такой некаханай зямлі ўсё болей, бо людзей, закаханых у яе, усё меней. І таму, калі іду ці еду па Беласточчыне і бачу пажылога мужчыну ў полі, на лузе або пры жывёлах, сэрца залівае мне хваля ўдзячнасці. Гэта тыя людзі, якім конь не смярдзіць, а зямля пахне. Дзякую вам, пажылыя беларусы. Без вас наша зямля становіцца сіратою».

**Аб родным.**

«Гэты кліч нашу ў сабе і я. Калі б мяне раптоўна абудзілі са сну і спыталі: хто ты? — дык напэўна я б не гаварыў ні аб універсітэтах, ні аб паэзіі і нават не аб «Ніве». А гаварыў бы аб тых вясковых рэаліях, якія акрэслілі характар майго дзяцінства і юнацтва... Як жа часта ў цемры і цішыні варшаўскай ночы я чую падпечнага цвыркуна, які нястомна заводзіў мне многагадзінныя спевы. І бачу ў марознай цемры бацьку, які прыносіць і кладзе каля цёплай печы бездапаможнае, толькі што народжанае ягня. (...) А ці могуць не сніцца і не мроіцца першыя падснежныя веснавыя струмені або першыя парасткі травы, якія рвуцца да сонца, нягледзячы на тое, што тут жа побач ляжыць снег і лёд. А ці можа не наведаць мяне трывога, звязаная з першымі, самастойна кінутымі ў зямлю зярнятамі... Няхай растуць! Яны наш хлеб — наша жыццё! (...) Людзі, выходзьце ў пагодныя ночы, сядайце перад сваімі хатамі, глядзіце ў зорнае неба так, як глядзелі ў яго продкі, і ведайце, што ўсякая прыгажосць у чалавеку і ўсякае багацце бярэцца толькі з роднага».

**„Жнівень слоў”**, 1967 год.

Народнасць з мадэрнам
сварыцца не мусіць —
ў паэзіі месца хапае.
Тут стылі, як ветры
у лугах Беларусі,
ад краю
да краю шугаюць.
Выбірай сабе стыль,
выбірай сабе крылы:
адно крыла —
вершы ў рыфмах закаваны,
другое — мадэрнам распушчаны,
як птушкі вольныя ў пушчы.
Растуць ува мне словы,
як зерне ў калоссі,
ссыпаюцца ціха ў чырвоную восень.

❖ Міра ЛУКША

НАВІНКІ ІНТЭРНЭТ-КРАМЫ



**http://kniaz.by**

У часы беларускай рэвалюцыі, як цяперашнія падзеі называе шмат хто з людзей, якія хочуць змен у краіне, зразумела, што попыт на сімволіку сягнуў далёка ўверх. Натуральна, што людзі хочуць так ці інакш абазначыць сваё стаўленне да таго, што яшчэ паўгода таму здавалася нерэальным. Але такі попыт на нацыянальную сімволіку ўзнік не на пустым месцы. Крамы з такімі таварамі ўзніклі не ў сёлетнюю вясну і не летам. Яны пачалі з'яўляцца два-тры гады таму і, магчыма, тады іх уладальнікі зразумелі пакупніцкі трэнд. А гэты трэнд пачаўся з моды на вышыванкі, якімі людзі зацікавіліся ў 2015-2017 гадах.

Адной з такіх стала крама „Князь Вітаўт”, што адчынілася ў Брэсце — горадзе, які цэлы час не лічыўся нейкім апірышчам ідэі беларускага адраджэння. Але ад 2017 года і да сёлетніх падзей крама працавала. Праўда, 2020 год даўся ёй. Так, у жніўні яна была часова зачынена праз падатковую інспекцыю, якая знайшла ў яе нейкія парушэнні. Аднак праз дзесяць дзён яна адчынілася, хоць і ненадоўга. Згодна інфармацыі на сайце крамы, 28 жніўня яна адпрацавала апошні дзень у звычайнай рэчаіснасці, цалкам перайшоўшы ў віртуальную прастору. Месцам для набыцця тавараў з асартыменту „Князя Вітаўта” застаўся толькі сайт **https://kniaz.by**.

Дарэчы, пра тое, як улады перашкаджалі працаваць краме, можна пачытаць у рубрыцы „Навіны” на яе сайце. Так, у чэрвені за продаж цішоткі з надпісам „Welcome to Belarus” і намаляваным побач аўтазакам (аўтамабілем для перавозу арыштаваных) уладальніка крамы — прадпрымальніка Алега Чапарава выклікалі да сябе ўлады. «Яны хацелі даведацца, што мы хацелі гэтым сказаць. Мы патлумачылі, што, па-першае, цішоткі ўжо зробленыя і трэба іх прадаваць, бо інакш страцім грошы. А па-другое, гэтая выява — наша пазіцыя. У адказ пачулі, што быццам бы гэтай цішоткай мы падрываем аўтарытэт і рэпутацыю Беларусі ў вачах замежнікаў ды іншых людзей», — распавядаў прадпрымальнік на сайце крамы „Князь Вітаўт”.

Пасля гэтага да крамы з'явілася новая прэтэнзія. «Потым мы атрымалі ліст, што на нас ёсць скарга: быццам бы нехта заходзіў у краму і пачуў запах клею ад нашых цішотак. Пасля — пачаліся праверкі. Прыходзілі з энерганагляду — спраўдзіць, ці не гарэла праводка, прыходзілі і з МНС (міністэрства надзвычайных сітуацый) і са службы маніторынгу ўпраўлення гандлю. Яны выбралі некалькі рэчаў, папрасілі на іх сертыфікаты і ўсю дакументацыю. Канешне, мы ўсё гэта ім прадставілі, але калі яны думаюць, што мы перастанем прадаваць нейкія цішоткі, то гэта не так. Мы як прадавалі і з «Пагоняю», і з БЧБ-сцягам, і з аўтазакам, гэтак і будзем надалей рабіць, бо ў нас ёсць свая пазіцыя і свае думкі, наконт таго, што адбываецца ў Беларусі», — казаў Чапараў.

Сапраўды, у жыцці кожнага чалавека вельмі важна мець сваю пазіцыю. Цяперашнія тэхналогіі дазваляюць гандляваць праз інтэрнэт кожнаму, тым больш таму, хто ведае, як гэта рабіць. А „Князь Вітаўт” сведчыць, што ён можа гэта рабіць добра, бо да сёлетніх падзей яго тавары былі запатрабаваныя ў берасцейцаў. І думаецца, што продаж у інтэрнэце, асабліва ва ўмовах каранавіруса, прынясе патрыятычнаму прадпрымальніку немалыя грошы.

❖ Аляксандр ЯКІМЮК

ДАТА З КАЛЕНДАРА



# 130 гадоў з дня нараджэння Янкі ПАЧОПКІ

Беларускі паэт, свецкі праваслаўны і культурны дзеяч, рэдактар і выдавец, пісьменнік, перакладчык, фалькларыст, аграном Янка Пачопка нарадзіўся 26 кастрычніка (8 лістапада) 1890 года ў вёсцы Летнікі Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер Залескі сельсавет Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці). Сям'я Пачопкаў была вялікая — бацька, які працаваў леснікам, маці і дзевяць дзяцей — чатыры браты і пяць сясцёр. Выхаваны бацькамі ў любові да працы, юнак абраў свой шлях у жыцці, звязаны з зямлёй. У 1913 годзе Янка Пачопка скончыў Варанецкую сельскагаспадарчую школу, працаваў у дэпартаменце земляробства Віленскай губерні. Быў рэдактарам двухтыднёвіка „Праваслаўны беларус” (1925), які выдаваўся ў Варшаве. Працаваў аграномам пры Дзісненскім рэўкаме (1939-1958). У 1930-я гады жыў на ўласнай гаспадарцы.

Першы верш Пачопкі „Дудар” надрукаваны ў „Нашай ніве” ў 1913 годзе. Вёска Летнікі, дзе нарадзіўся пісьменнік, была населена Пачопкамі і дзялілася на два „канцы”, якія па-вулічнаму называліся Башкіры і Вушлакі, таму адзін з псеўданімаў Янкі Пачопкі — Башкір. Усе свае творы Пачопка пісаў толькі па-беларуску. Быў вельмі пісьменным і адукаваным чалавекам, яго вершы напісаны ад рукі сакавітай беларускай мовай, тарашкевіцай, амаль што без паправак. Шэдэўрам любоўнай лірыкі можна лічыць верш Пачопкі „Васілёчкі”. Пісаў таксама прозу. Першае апавяданне „Злы лёс” з'явілася ў газеце „Савецкая Беларусь” у 1921 годзе. З малых гадоў Пачопка збіраў і запісваў народныя казкі, паданні, з якіх потым нарадзілася кніга „Дурнішча: народная казка з Дзісеншчыны” (1927). Вершы, народныя паданні, казкі, апрацаваныя Пачопкам, друкаваліся на старонках дзіцячых часопісаў „Заранка”, „Пралескі”, у „Праваслаўным беларусе”.

Янка Пачопка стала супрацоўнічаў з часопісам „Маланка”, дзе друкаваў свае вершы і байкі пад псеўданімам Шкірба. Творы яго змяшчаліся таксама ў заходнебеларускіх часопісах „Калосьсе”, „Хрысціянская думка”, газеце „Сялянская ніва”. У 1920-я гады ў Вільні выйшлі яго сельскагаспадарчыя кнігі: „Малочная карова: Як яе выбраць, карміць і даглядаць”, „Гароднііцтва: Як трэба гаспадарыць на гародзе, каб мець добрае варыва”, „Як выбраць добрага каня”, „Пчолы і як вадзіць іх у рамовых вуллях”.

Пасля вяртання ў канцы 1920-х гадоў з Вільні на радзіму, у вёску Летнікі, паэт апынуўся ізаляваным ад звыклага яму кола культурнай інтэлігенцыі. Сямейныя абставіны — трое дзетак, праца агранома, жыццё ў даволі глухім кутку ды і прыродная сціпласць, сарамлівасць гэтага чалавека, — прывялі да таго, што Янка Пачопка апынуўся ў адзіноце. Але ён меў блізкага сябра — мастака Язэпа Драздовіча, які зрабіў яго разны партрэт і малюнкі да кнігі „Пчолы...”. Многія работы мастака і некаторыя асабістыя рэчы доўгі час захоўваліся ў сям'і Янкі Пачопкі. Яшчэ адным з лепшых сяброў быў Міхась Машара. Трое сяброў — Пачопка, Драздовіч і Машара, — часта сустракаліся, абмяркоўвалі надзённыя праблемы, ладзілі паэтычныя вечарыны... Іх сустрэчы ўвасобіліся ў паэму паводле легенды залескіх мясцін. Паэма „Мамчына горка” аўтарства Міхася Машары была напісана і надрукавана ў 1936 годзе.

Янка Пачопка пражыў 87 гадоў. Да апошніх дзён працаваў на зямлі. Шчыра любіў сялянскае жыццё, заўсёды адгукаўся на просьбы землякоў па пытаннях ветэрынарыі і аграноміі. Вольны час праводзіў з кнігай. Памёр Янка Пачопка 26 траўня 1977 года, пахаваны ў вёсцы Малінаўка Глыбоцкага раёна.

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

9 ☞ працяг то, мабыць, сказала яму, дзе жыды схавалі дабро. І пайшла.

Ажаніўся другі раз, ужо з праваслаўнай, дзесь пасля Руздва. Тады не было папяровых разводаў, толькі запісваліся ў царкве; і ўсё. А «за савета» то быў толькі адзін запіс (цывільны).

Успамін **Барбары МАРТЫНОВІЧ** з Орлі (1923-2007), (паводле публікацыі ў «Кур'еры Паранным» з 1999 года):

— Муж [Аляксандр — М. М.], хрысціянін, першы раз ажаніўся з жыдовачкай [Гітляй — М. М.]. Калі б не другая жаніцьба, мабыць трапіў бы ў Трэблінку.

Успамін **Ярaслава АДЗІЕВІЧА** з Орлі (1927-2017):

— Праваслаўныя з тых мешаных сужонстваў мабыць баяліся. Але немцы — так мяркую — бралі ў гета толькі жанчын: мацярэй і патомства, бо ішло пра элімінацыю жыдоўскіх генаў.

**Уладзімір ПАСЕЧНІК**:

— Валодзька Рынгайла ажаніўся з жыдоўкай Шыфрай яшчэ пры санацыі. Мелі дзяўчынку. Жыў у доме Ярымовіча, а як немец разагнаў, то пабудаваў сабе дом па вуліцы Вызвалення.

Успамін **Марыі АДЗІЕВІЧ** з роду Рынгайла з Орлі, 1930 года нараджэння:

— Наш дзядзька Валодзя Рынгайла меў жонку Шыфру. Мелі дачушку, народжаную ў 1940 годзе, я яе яшчэ дагледала. Было ёй больш аднаго года, калі вывозілі.

Успамін **Яўгеніі ХАМІЦКАЙ** з роду Рынгайла з Орлі (1933-2014):

— Наш дзядзька Валодзя Рынгайла, шавец па прафесіі (граў таксама на акардэоне), меў жонку Шыфру, жыдоўку. Мелі дзіця. Калі забіралі жыдоў у гета, то не хацела пакінуць дзіцяці пры бацьку. Потым, калі вывозілі жыдоў з Орлі, ехала Шыфра на фуры і трымала тую дзяўчынку на каленях. Я плакала. Дзядзька ішоў каля той фуры, не мог «распрашчацца». Жыды былі вельмі добрымі людзьмі і добра жылі з нашым народам.

Успамін **Людмілы ЁДЛЫ**, у дзявоцтве Качынскай з Орлі:

— Павел Гонта з Міклашоў быў жанаты з жыдоўкай Бэйлай. Цэлы жыдоўскі кагал, значыць самаўрад жыдоўскай верніцкай гміны, быў супраць таго сужонства. А потым людзі з Міклашоў хацелі яе ратаваць перад немцамі.

**Уладзімір ПАСЕЧНІК**:

— Павел Гонта быў жанаты з жыдоўкай Бэйлай. Памятаю, што мела рыжыя валасы. Мелі дваіх хлопцаў і дзяўчынку. Бэйла паходзіла з таго дому, дзе мы жывём. Тут побач была алейня з конным прыводам, нагняталі алей. Фёдар Федаровіч меў пару коней — чырвонага і чорнага — то працаваў пастаянна ў таго жыда. [У той час свае алейні мелі ў Орлі А. Гольдэ і Х. Камянецкі — М. М.]

Успамін **Андрэя ГОНТЫ** з Міклашоў, унука Паўла Гонты, 1949 года нараджэння:

— Калі б дзедка тады [4 лістапада 1942 года — М. М.] не быў на рабоце, то, пэўна, не пусціў бы Бэйлы. Раней дзедка выкапаў зямлянку дзесь у лесе за чыгуначнымі пуцямі. І было там усё нарыхтавана, ежа... Прабабуля Параска адвяла Бэйлу і ейныя трое дзяцей [Васю, Ніну, ?; найстарэйшае мела больш дзесяці гадоў] аж пад арлянскую кафлярню. У сям'і захавалася маленькая фатаграфія Бэйлы, раней падараваная мужу, з моцна пацертым прысвячэннем па-польску і часткова па-руску: «Drogiemu Pawełku podarowuje zdjęcie Бэла, Орля 22.I.40».

Паводле ўспамінаў пажылых жыхароў Міклашоў, сабраных у 2018 годзе, можам даведацца, што ў часе, калі арлянскія жыды былі заключаны ў гета, то Бэйла Гонта ўвесь час аставалася на свабодзе ў Міклашах побач Орлі, не насіла жоўтай зоркі. На выпадак небяспекі было выкапана сховішча за вёскай. Калі арлянскіх жыдоў мелі ўжо адправіць у Бельск, то ў Міклашы прыехалі Бэйлы бацька з братам і яе забралі. У той час муж Бэйлы Павел Гонта быў на працы далёка ад Орлі.

**Сімпатыі, нарачонствы**

Успамін **Уладзіміра ПАСЕЧНІКА**:

— Сусед, праваслаўны, каваль, меў нарачоную жыдоўку. Жыдоўка пытае: «Дзе сустрэнемся?» Ён адказаў: «За царквою». Бо на царкоўнае жыды, паводле іх законаў, не мелі права ўваходзіць. Гаварыла, што ведае, дзе бацька трымае грошы і што ўцякуць у Амерыку. Ейны бацька даведаўся, прыбег да кавалёвага бацькі: «Нашы дзеці так панюхаліся, як лысыя коні. Давай хай жэняцца. Толькі дай мне сына ў Вільню на абразанне». Той не згадзіўся.

Успамін **Веры СУШЧ**, у дзявоцтве Данілюк з Орлі (1922-2016):

— Муж Мікіта быў кушняром. Расказваў, што ў морадасці меў нарачоную — жыдовачку Раню з Бельска. Ладная дзяўчына — захавалася яе фатаграфія. Было гэта паважнае нарачонства. Мабыць, выбух вайны перакрэсліў іх сужонскія планы.

Успамін **Цімафея ВАЛАСОВІЧА** з Кашалёў:

— У Кашалях жыў хлапец Амелян Куна. Жыдоўка, такая невялікага росту, прыбягала да яго амаль штовечар, любіла яго і заляцалася да яго, але ён не аддзячыў ёй.

Апрацаваў, запісаў, фатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

## Мы яшчэ ходзім па грыбы

По ўсім відаць, што сёлета грыбны сезон яшчэ не закончыўся. Зараз грыбнікі дачакаліся зялёнак і падзялёнак. Раніцай 31 кастрычніка гэтага года Ян Рошчанка ў мяшаным лесе каля вёскі Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета збіраў грыбы, падгрыбкі, зялёнкі, падзялёнкі і рыжыкі. Ён знайшоў вялікага і здаровага грыба (можна агледзець яго на здымку) і пару грыбоў меншых ад яго.

Так што ў лесе грыбы ёсць ды, — як сказаў вопытны грыбнік, — цяпер якраз найбольш падзялёнак і падгрыбкаў ды што важна ўсе яны не кранутыя чарвямі. Асенні лес запрашае ў свае харомы.

Тэкст і фота
**Янкі Целушэцкага**

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. горад на поўначы Чылі = 44 _ 45 _ 46 _ 47 _ 48 _;
2. становішча, пры якім выбар аднаго з двух супрацьлеглых рашэнняў аднолькава складаны = 18 _ 20 _ 15 _ 16 _ 1 _ 17 _;
3. індыйскае рэлігійна-філасофскае вучэнне і сістэма фізічных практыкаванняў, дазваляючыя чалавеку кіраваць псіхічнымі і фізіялагічнымі функцыямі свайго арганізма = 50 _ 33 _ 14 _;
4. ваяводскі горад на ўсходзе Польшчы = 5 _ 6 _ 7 _ 51 _ 37 _ 38 _;
5. збожжавы і камп'ютарны грызун = 41 _ 40 _ 39 _;
6. духмяная зёлкавая расліна (*Mentha*) = 21 _ 32 _ 22 _ 31 _;
7. важная кулінарная расліна (*Piper*) = 25 _ 28 _ 23 _ 24 _ 29 _;
8. высушаная трава = 42 _ 13 _ 34 _ 36 _;
9. перпендыкулярная падлозе = 3 _ 30 _ 2 _ 19 _ 4 _;
10. важная карта або асоба = 43 _ 11 _ 49 _;
11. каровін „дашкольнік” = 9 __ 8 __ 26 __ 27 __;
12. касіў канюшыну = 35 __ 12 __ 10 __.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
| 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 |
| 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 | 50 | 51 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 43 нумара**

Ампір, Баку, доўг, Пац, пена, піва, сініца, якут.

Рашэнне: **На доўгім вяку трапіцца па спіне і па баку**.

## 08.11 — 14.11

**(22.03. — 20.04.)** З 8.11. могуць выйсці справы, якіх лепш табе не чапаць. З 8.11. (да 18.11.) могуць папсавацца адносіны з бацькамі ці цясцямі. З 13.11. не паддайся згубным жарсцям. Лішне эксплуатаваны арганізм можа адмовіцца ад правільнага дзеяння. Асабліва Баранам з III дэкады можа быць кепска, могуць нават апынуцца на шпітальнай койцы. Найлепш Баранам з першых дзён знака.

**(21.04. — 21.05.)** Пасля 10.11. будзеш больш кантактны, гнуткі і спраўны ў негацыяцыях. Аформіш кожную справу, наладзіш супрацоўніцтва. Праверыш сябе як дасканалы медыятар; пазбягай спрэчак з шэфам. Задумы на ўласны бізнес, прынамсі некаторыя, варта рэалізаваць. Спрыяльныя нагоды будуць у наступным тыдні. У выходныя зрабі ежу на цэлы тыдзень і замарозь яе, бяры порцыямі. З 11.11. добрыя адносіны з сям'ёй і суседзямі. Спі даўжэй.

**(22.05. — 22.06.)** Многа працы, шмат добрых нагод. Энергіі і ахвоты да дзеянняў не замнога. 7-11.11. рамантычныя хвіліны, прабудзіцца жарснасць. Можа, падумаеш пра павелічэнне сям'і? А можа лёс вырашыць за вас? Будзеш цешыцца вялікай папулярнасцю, хаця сустрэчы 12-13.11. не гарантуюць трываласці. На працы нялёгкія заданні або прыйдзецца браць работу дахаты. Не нервуйся і не трачь веры ў сябе. З 10.11. урэшце пакінеш траўмы за сабою. Не адпускай дысцыпліны, калі ўжо крыху пахудзеў.

**(23.06. — 23.07.)** Цвяроза глянеш на ўсё і твае рашэнні будуць трапныя. Будзеш склейваць разбітыя сэрцы. Не дацэньваюць тваёй працы дома — пакажы, што будзе, калі возьмеш у хаце «вольнае». На працы заціснi зубы, адчакай. Схадзі да дантыста, у лабараторыю — дробныя адхіленні не прычына для панікі, але падумай, ці добра дбаеш аб сябе.

**(24.07. — 23.08.)** Многа абавязкаў, з якімі трэба справіцца. Разлічвай на інтуіцыю. 7-11.11. будзеш мець адвагу для ўвядзення карысных змен. 8.11. вельмі пільнуйся са здароўем. Падтрымка і запас энергіі ад зорак. З 13.11. у пары напруга і разрозненні. Самотныя Львы не будуць у рамантычным настроі, але трапяць да мэты — можа быць ёю знаёмства з асобай пазнанай на рамантычным сайце; цікавыя матрыманіяльныя прапановы 7-11.11. 11-15.11. можаш спадзявацца ад сваякоў радасных навін. З 13.11. спрабуй раскруціць свой бізнес.

**(24.08. — 23.09.)** Рабі сваё, у тое што верыш, і не пераймайся чужой балбатнёй. Уражлівасць і празорлівасць. У здароўі цалкам добра, хаця... убачыш маршчынку! Карыстайся натуральнай касметыкай. На рабоце прападуць рэчы нудныя і стамляльныя. Пры тузе ўключы ўлюбёную музыку, танцуй.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш упарты і рашучы. Венера будзе спакушаць смакоццем і дарагімі пакупкамі. Будзеш атракцыйны і папулярны, і можаш моцна «наразрабляць» 7-11.11. Памятай, тое, што робім, вернецца да нас і нашых блізкіх. У парах цёпла і блізка ўвесь лістапад. З 11.11. (да 15.11.) не сядзі са складзенымі рукамі, і апануй эмоцыі — з кабінета шэфа выйдзеш з павышэннем. Горшы настрой папраў шакаладам. З 13.11. не трап у турботы пад уплывам эмоцый.

**(24.10. — 22.11.)** 8-12.11. будзе ўзнагарода за тое, што ты зрабіў для іншых. Многа энергіі для новага і крэатыўнасці. З 13.11. не прабуй маніпуляваць. Больш поспехаў, немалых! Карыстайся вопытам і ўмеласцю ўплывання на іншых. Дзякуючы табе фірма заробіць многа, і пазбегнеце сур'ёзных памылак. З 13.11. шэфства зверне ўвагу на твае дасягненні (што прынясе цікавую прапанову ў апошнія дні лістапада). Не ізалюйся ад людзей; 10-14.11. можаш адчуць самоту.

**(23.11. — 22.12.)** Не будзеш бясчынны, набярэшся новага досведу. Не паддайся спакусе зарабіць благім спосабам. З 14.11. хтосьці захоча ад цябе занадта многа. З 13.11. старайся не паддавацца эмоцыям. Шмат працы, неруціннай. Працуй сумленна, бо можаш падвергнуцца благім дзеянням асоб табе непрыхільных. Менш энергіі, не прастудзіся. Еж квашанае.

**(23.12. — 20.01.)** Будзе хацецца змен, незалежнасці. Паявяцца прафесійныя магчымасці. Вольныя Казярогі не будуць за нікім ганяцца. Не давайся выкарыстоўвацца на працы. Можаш пераставіць сваю прафесію на новыя пуці. 12-16.11. адчуеш сябе панам сітуацыі. 7-11.11. не трактуй лёгка «гумораў» партнёра. З 13 (да 17.11.) шыкуецца вялікая афёра ў фірме. Не шкадуй сабе нічога.

**(21.01. — 19.02.)** З 11.11. (да 15.11.) пазітыўныя змены ў рэляцыі з партнёрам. Аддзеліш важнае ад драбязы. Самыя добрыя моманты і гарачыя жарсці ў пары. Захаваеш дыстанцыю і добры настрой. З 13.11. не ўблытайся ў раман з занятай асобай; лепш пачакай на асобу табе наканаваную лёсам (пачнецца ад супольных зацікаленняў) ці ў інтэрнэце. З 13.11. новая праца ці старт з уласным бізнесам. Гавары адразу, што табе «ляжыць на пячонцы».

**(20.02. — 21.03.)** 8-12.11. свет прыгожы і прыязны. Павер у свой талент. Чуласці не будзе канца. Адсвяжы старое хобі. З 13.11. не багацей на чужым горы. На працы кіруйся інтуіцыяй. Купі сабе штосьці файнае. Насі цёплую бялізну, не сядай на халодным, каб не прастудзіць пухір і ныркі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 39,00 zł., półroczna 78 zł., roczna 156 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 70 zł., półroczna 140 zł., roczna 280 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 693 70 00 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# У восеньскім лесе

**Восень з'яўляецца парою збору лясных дароў. Ну і выбраўся я ў лес за грыбамі, бо ж і сыравата было ў нас у апошні час, і цеплавата; акурат пад высып грыбоў. Падаўся я за Букштэль, злез з поезда на прыпынку Махнач і пашагаў у тамашні лес.**


Лясная скульптура

Пару гадоў таму бываў я там і не вяртаўся з пустымі рукамі. І цяпер падаўся ў тыя недалёкія ад чыгуначнага прыпынку месцы, дзе калісь знаходзіў грыбныя скарбы. Але сёлета там толькі зрудзелая трава пад хвойкамі і бярозамі. Калі так, то трэба падацца далей, можа ў больш сырых месцах знойдуцца нейкія пянькі з апенечнай прапановай. Але ў тых засланых імшаным дываном лясных харомах таксама мне не пашанцавала. Тады трэба перакінуцца на пошукі іншых лясных дароў, нават тых антрапагенных.

Яшчэ перад вылазкай у лес заглянуў я ў карту і пабачыў, што за Махначом ад галоўнай былой Варшаўска-Пецярбургскай магістралі адыходзіць у лес кароткая чыгуначная ветка. Ну то з'явілася цікавасць — а куды ж тая ветка вядзе. Ну то і павалокся я шукаць тае веткі. Нядоўга давялося мне шнырыць. Праўда, рэек ужо там няма, але чыгуначны насып астаўся, не надта выразны, бо без рэек і зарастаючы прыродай. Галоўным жа арыенцірам яго прысутнасці асталася захаваная гарызантальнасць.

Падаўся я па тым насыпе ў той бок, куды яго праклалі ад галоўнай чыгуначнай лініі, значыць у лес. Спачатку нават гожанька мне ішлося па тым насыпе, бо на ім яшчэ не выраслі нейкія буйныя расліны, адно толькі маладыя бярозавыя і іншыя стваліні, якія сваім маладым аптымізмам заахвочвалі да далейшай вандроўкі для наталення цікавасці, куды тая чыгуначная ветка вядзе, якая была мэта яе пракладкі. Дзе-нідзе ляжалі моцна спарахнелыя вывернутыя шпалы, а і нагамі адчувалася іх прысутнасць пад раслінным дыванчыкам.


Рэштکі шпал


Восеньскі лісцевы дыван на былым чыгуначным насыпе

Гаворыцца, што чым далей у лес, тым больш дрэў. І гэтая пагаворка спрацоўвала таксама на забываным чыгуначным насыпе. Бо сталі штораз часцей паяўляцца вывараты ўпоперак насыпу, штораз цяжэй праходныя; і час ад часу трэба было сыходзіць з насыпу на размашыстую яго абочыну каб мінуцца з тымі выварaтамі. У лясную цішыню завіталі водгаласы не толькі матапіл, але і больш мажных машын. На абочынах колішняй веткі з'явіліся свежа спілаваныя пянькі, паявіліся пацяжныя сляды, па якіх аўтахтонныя дрэвы вывалакаліся ў іх новыя дарогі на дрэваапрацоўчую чужыну. Але прабівацца па насыпе не было ад гэтага лягчэй, а наадварот — лясныя засекі сталі станавіліся штораз менш праходнымі.

Дайшоў я такім чынам да ляснoй жвіроўкі, за якою «мой» чыгуначны насып папросту расплыўся, страціў сваю выразнасць, зліўся са звычайным лясным грунтам. У перспектыве дарогі паказаўся лесаўборачны грузавік, а ў адваротным напрамку згрувашчаныя па той жвіроўцы штабелі пасечаных для загрузкі ствалоў. І паказаўся будынак, а больш дакладна — каркас мураванкі, зеўраючы пустымі аконнымі і дзвярнымі праёмамі. Значыць — тут быў канец веткі, а будынак быў бадай канторай, у якой лясныя чыны назіралі загрузку драўніны з навакольнага лесу...

Шмат-дзе ў лесе бачны табліцы з той несумненнай праўдай, што лес гарыць хутка, але расце доўга. І так, разглядаючыся, змеркаваў я, што навакольны лес стаў паднімацца ад карміцелькі-зямлі ў пасляваенны час. А да таго часу, як мне падалося, было высечана яго ранейшае пакаленне і дзеля яго вывазкі і была пракладзена тая ветка. Бо ж у наваколлі Букшталя ў час Першай сусветнай вайны была пракладзена сетка вузкакалеек, гэтак жа як і ў той сам час такая ж сетка ўелася ў Белавежскую пушчу. Але зноў з'явілася ў мяне сумненне — а дзеля чаго было пракладваць ветку сем-восем кіламетраў ад сённяшняй Чорнай-Беластоцкай, калі ў тартаку побач тамашняй станцыі можна было і перапрацоўваць драўніну, і на станцыі грузіць для вывазкі ў іншыя дрэваапрацоўчыя заводы.

Але цалкам магчыма, што тая шырокакалейка была пракладзена не дзеля вывазкі драўніны. Сакрэтам палішынеля з'яўляецца выраб у тамашнім заводзе сельскагаспадарчых машын і вайсковай тэхнікі. Магчыма тады, што гэтая забітая ў лес ветка і была прызначана для сакрэтнай загрузкі сакрэтнай тэхнікі. А калі памяняліся палітычныя і гаспадарчыя рэаліі, а за імі і ваенна-стратэгічныя, то тая сакрэтная вытворчасць была згорнута, так як і, дарэчы, былі згорнуты іншыя заводы з зусім мірнай вытворчасцю; такая мая здагадка, бо не ўдалося мне знайсці ў даступных мне крыніцах хаця мінімальнай інфармацыі пра тую загадкавую ветку...

Ах, калі б у наш насычаны інфармацыяй час можна было знайсці ўсё, што можа зацікавіць дапытлівага чалавека... Для прыкладу — грунтоўную інфармацыю пра пазначаны на картах запаведнік Ясеневыя горы, які тут жа за згаданай веткай. У сеціве толькі чыста фармальная інфармацыя, гэтак жа, як і на месцы, дзе кончылася чыгуначная ветка — запаведнік далей. Ёсць стэнд, які паведамляе, што запаведнік Ясеневыя горы быў заснаваны ў 1987 годзе, а яго задачай ахова тамашняй біяразнастайнасці. Праўда, на месцы не відаць межаў таго запаведніка, яны пазначаны на картах. І на стэндзе паведамленне, што ў запаведнік можна заходзіць толькі па вызначаных дарожках; і да гэтага ўсялякія ахоўныя забароны.

І каб не парушыць нейкай забароны падаўся я па згаданай ляснoй жвіроўцы, мінуўшы разнасортныя штабелі ссечанай там драўніны. Але карціла ж мяне рвануцца ў лясную глыбінку. Ну і, пабачыўшы прамую міжквартальную трыбу, рвануўся я па ёй, мяркуючы, што такія лясныя прасекі расчышчаны і можна будзе тудою дабрацца да нейкай далейшай дарогі. Але ж тая трыба, так як і раней чыгуначны насып, стала ставіць перада мною штораз гусцейшыя зараснікі. Да таго ж лясны ландшафт там зменлівы, перасечаны; і перасечаны балотам тыя трыбы. Давялося вяртацца зноў на жвіроўку, дайсці да ўезджанай ляснoй дарогі і па ёй дабрацца да магутнейшай жвіроўкі і па ёй прамусенька ў Чорную-Беластоцкую.

Магло б здавацца, што мая вылазка ў лес, а канкрэтна — у грыбны лес, закончылася правалам. Аднак замест грыбоў для наталення цялесных смакавых фанабэрый, у лесе можна знайсці шмат-што для душы. Гэта цікавыя лясныя аб'екты. Для прыкладу — кармушка для птушак, павешаная высока на дрэве. На ёй лічбы: падумалася б, што гэта такі адрас тае птушынае хаткі; і сапраўды — гэта адрас, але не тапаграфічны, толькі бухгалтарскі, які пазначае яго месца ў кнігаводстве ляснoй адміністрацыі.

Або зноў карані вывaрату — гэта ж гатовая драўнінная скульптура, якой жанр не вызначаны антрапагенная класіфікацыяй. Ці пакінутыя лесапільшчыкамі інсталяцыі фрагментаў елак, якія выглядаюць як супрацьтанкавыя абарончыя абсталяванні. Або выгнуты аркай граб з нацэленымі ўгару парасткамі, які выглядае як стройны дагістарычны дыназаўр...

Не менш цікавая арка і ў самой Чорнай-Беластоцкай. Здаецца, не надта даўнавата я там быў, але неяк не звярнуў увагі на тамашняе збудаванне — гэта металічная кладка над чыгункай, побач вуліцы, якая перасякае тую чыгунку звычайным пераездам са шлагбаўмамі. Дзеля чаго тая кладка — цяжка здагадацца. Ну, бывае, што збудуюць недзе мост, пад якім няма ніякага вадацёку, нават сухога. Можа тая кладка з'яўляецца нейкім эстэтычным дадаткам да тамашняга гарадскога краявіду? Як Эйфелева вежа ў Парыжы? Была яна, кладка, узведзена, магчыма, у час будавання «другой Польшчы», бо калі б будавалі яе цяпер, то напэўна з пад'ездамі для калясак або з ліфтам. Вось той згадваны раней завод сельскагаспадарчай тэхнікі, мабыць, рашыў падараваць са свайго канструктарскага патэнцыялу і нешта гораду...

Чорная-Беластоцкая з'яўляецца адносна маладой мясцовасцю, затое векавым можна назваць ейны квартал Букштэль, які распалажаны па беластоцка-сакольскай шашы. Быў там калісь ям, паштовая станцыя, пра што паведамляе ўстаноўлены ў цэнтры горада стэнд Вялікага літоўскага гасцінца. Стэнд інфармуе, што ў букштальскім яме было некалькі дзясяткаў коней; перапраганне павозак павінна было займаць не больш паўгадзіны часу. Букштальскім ямам загадвала запрошанае з Германіі семейства Рыбекаў. З Вікіпедыі: «1782 — Wybudowanie przez Golfryda Rybeka stacji pocztowej Buksztel, 25 kwietnia 1793 zatrzymuje się tutaj król Stanisław August Poniatowski».

Дарэчы, і сама назва Букшталь нямецкага паходжання. *Stall* па-нямецку гэта памяшканне для жывёл — стайня, хлеў. Мовазнаўцы ж выводзяць назву Букшталь з нямецкага словазлучэння *Bogengestall* — дуга з дошак, на якой узводзяць арку, скляпенне. Магчыма, што будаваная Готфрыдам Рыбекам паштовая ўстанова, ці стайня, мела арачнае скляпенне, з чаго і пайшла назва мясцовасці...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960